ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№10 (79) кастрычнік 2017 год

CATHOLICNEWS.BY

## Новы святар у Віцебскай дыяцэзіі

Стар. 4

У Глыбокім святарскае пасвячэнне атрымаў дыякан Алег Хмылко

## Пастырскі візіт у Пятроўшчыну



Стар. 7

## “Не бойцеся пазнаваць сябе, прымаць сябе і жыць у шчырасці!”

Інтэрв'ю з хрысціянскім псіхолагам Таццянай Палхоўскай



Стар. 8

## Біблійны фланэлёграф і экскурсія ў праваслаўную царкву: спатканне катэхетаў прайшло ў Глыбокім




Стар. 3



# Святы Айцец прыняў удзел у абедзе з беднымі

**Пантыфік прыняў удзел у абедзе салідарнасці з беднымі, які быў арганізаваны балонскім аддзяленнем "Caritas" у мясцовай базіліцы св. Пятронія – шостай па памерах у Еўропе.**

Тут сабраліся каля тысячы бяздомных, хворых, вязняў, уцекачоў, самотных пажылых людзей, пра якіх клапоцяцца каталіцкія дабрачынныя арганізацыі і парафіі.

У прывітальным слове Святы Айцец назваў абед салідарнасці цудоўнай нагодай, каб падзяліцца "штодзённым хлебам", якім з'яўляецца не толькі ежа, але таксама і Евангелле, Божае слова, "каторае мы ўсе носім у сэрцы, і каторае для нас, хрысціян, мае аблічча Езуса".

Звяртаючыся да бедных, Папа Францішак заўважыў, што Касцёл прагне бачыць іх у цэнтры свайго жыцця, бо "Ён належыць усім, асабліва бедным". Мы ўсе "з'яўляемся запрошанымі праз дзеянне ласкі" і ўсе "маем патрэбу ў Богу, Які становіцца блізкім і адкрываецца ў дзяленні хлеба", – сказаў Пантыфік.

Папа заклікаў сабраных супольна памаліцца словамі малітвы "Ойча наш", у якой, паводле яго, "мы ўсе вызнаём патрэбу ў тым, каб перамагчы ўсе формы эгаізму і атрымаць доступ да радасці ўзаемнага прыняцця".

Пасля абеду Папа Францішак пакінуў базіліку і накіраваўся на кароткі адпачынак у сядзібу арцыбіскупа Балонні. У другой палове дня былі запланаваныя яго сустрэчы з духавенствам, студэнтамі і ўніверсітэцкімі выкладчыкамі, а таксама св. Імша на мясцовым стадыёне.

*Ватыканскае радыё*

# Беларуская мемарыяльная шыльда з'явіцца ў рымскай базіліцы

**У дворыку рымскай базілікі св. Клімента на Латэране будзе ўсталяваная бронзавая мемарыльяная шыльда са словамі ўдзячнасці святым Кірылу і Мятоду ад беларускага народа.**

Яна тут з'явіцца невыпадкова, таму што менавіта ў гэтай старажытнай святыні знаходзіцца магіла святога Кірыла.

14 кастрычніка 2017 г. шыльда была ўручаная прыёру базілікі айцу Томасу МакКарці. Галоўным ініцыятарам гэтай урачыстай падзеі выступіў спадар Пётр Краўчанка, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусі ў 1990-1994 гг. і Ганаровы старшыня міжнароднага фонда "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага".

*"Сёння для мяне абсалютна шчаслівы дзень, таму што ад імя Беларусі, ад імя вернікаў, як праваслаўных, так і каталіцкіх, мы будзем адкрываць гэтую шыльду і дзякаваць святым роўнаапостальным братам Кірылу і Мятоду, якія далі нам пісьменнасць і магчымасць размаўляць з усімі цывілізаванымі народамі свету, у тым ліку з братнімі славянскімі народамі",* – сказаў былы кіраўнік беларускай дыпламатыі.

З'яўленне мемарыяльнай шыльды ў базіліцы св. Клімента прыцягне ўвагу беларускіх пілігрымаў да гэтага месца, перакананы амбасадар Рэспублікі Беларусь у Італіі спадар Аляксандр Гур'янаў.

*"З боку беларускай грамадскасці, шэрагу арганізацый выношвалася ідэя, каб пакінуць часцінку Беларусі побач з дошкамі, якія ўжо размясцілі многія краіны, бо тут прадстаўленыя практычна ўсе славянскія народы. Мы рады, што частка Беларусі будзе знаходзіцца ў гэтым месцы. Наш праект ажыццявіўся якраз у год, калі мы ўспамінаем Францішка Скарыну, які развіў беларускую мову ўжо па слядах святых Кірыла і Мятода. Я шчаслівы, што ўсё атрымалася. Спадзяюся, што гэта месца стане новым пунктам пілігрымавання беларусаў у Італію,"* – падкрэсліў спадар Гур'янаў.

Мемарыяльная шыльда была выкананая яшчэ ў 1998 годзе славутым беларускім скульптарам Валяр'янам Янушкевічам. Зробленыя ім памятныя дошкі ёсць не толькі на будынках у Беларусі, але таксама ў Празе і Кракаве – гарадах, звязаных з жыццём і дзейнасцю Францішка Скарыны. Цяпер з'явіцца яшчэ адна – у Рыме, у гонар дзеячаў, якія таксама паспрыялі распаўсюджванню Божага Слова ў Беларусі.

Перад цырымоніяй перадачы шыльды прыёру базілікі св. Клімента ўдзельнікі падзеі спусціліся ў яе ніжнюю частку, дзе знаходзіцца магіла св. Кірыла, і адкрылі каля яе невялічкую часовую дошку на беларускай і італьянскай мовах са словамі ўдзячнасці Богу за апостальскую дзейнасць святых Кірыла і Мятода і за іх уплыў на беларускую мову і культуру.

*Паводле radiovaticana.va*

# Римско-католические иерархи Каталонии призывают паству к диалогу и молитве о мире

1 октября римско-католический архиепископ Барселонский кардинал Хуан Хосе Омелла опубликовал воззвание к пастве, в котором в связи с событиями, происходящими в настоящее время в Барселоне и всей Каталонии после проведения референдума об отделении от Испании, призвал всех к диалогу и молитве.

Обращение прелата опубликовано на официальном сайте Барселонской архиепархии.

В своем обращении к каталонцам кардинал Хуан Хосе Омелла заявил: «Непростая ситуация, в которой сегодня живет Каталония, вызывает сожаление. Мы должны найти мирный и демократический выход из положения, в котором оказались. Доверяем это Богу мира».

*sedmitza.ru*




# Мільён палякаў выйшлі на малітву за мір

У рамках ініцыятывы "Ружанец да межаў" у свята Маці Божай Ружанцовай, 7 кастрычніка, мільён польскіх вернікаў чыталі ружанец уздоўж дзяржаўных межаў краіны.

Малітвы адбыліся ў 320 храмах 22 дыяцэзій, у гарах, на ўзбярэжжы, у адкрытым моры, у аэрапортах, у Афганістане і нават за Палярным колам.

Пасля набажэнстваў людзі накіраваліся да чатырох тысяч загадзя вызначаных месцаў уздоўж дзяржаўнай мяжы Польшчы, дзе маліліся на ружанцы.

*Паводле svaboda.org*







## Помнік Маці Божай Ратавальніцы тых, хто тоне, устанавілі ў Мёрах

На мёрскай набярэжнай аднавілі гістарычнае месца і гістарычную скульптуру Панны Марыі, паведамляе Іван Барок на сваёй старонцы ў Фэйсбуку.

“Паводле ўспамінаў майго памерлага бацькі, да канца 50-х гадоў XX стагоддзя на гэтым месцы стаяў ранейшы помнік з белага мармуру. Яго сапхнулі бульдозерам у возера, пры гэтым разламалі на тры кавалкі. У 70-х гадах вадалазы спрабавалі знайсці абломкі, але ў гэтым месцы вельмі глеістае дно, так што нічога не знайшлі”.

На фота ніжэй карціна Вячаслава Шамшура “Мёры. Успамін” (2001г), на якой мастак па памяці намаляваў ранейшую фігуру.



# Агульнадыяцэзіяльнае спатканне духавенства ў Удзеле

**11 кастрычніка касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Удзела (Глыбоцкі дэканат) прымаў святароў, законных сясцёр і братоў з усёй Віцебскай дыяцэзіі, якія сабраліся на штомесячную сустрэчу з біскупам Алегам Буткевічам.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Месца спаткання было выбрана невыпадкова, бо менавіта сёлета святыня адзначае 300-годдзе існавання, а ў нядзелю, 8 кастрычніка, падчас кананічнай візітацыі быў асвечаны аднаўлены галоўны алтар.

Дзень духоўных сустрэч пачаўся гадзінай адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, падчас якой удзельнікі спаткання ў цішыні адаравалі Езуса і скарысталіся магчымасцю сакраманту споведзі.

Святую Імшу разам з біскупам Алегам канцэлебравалі генеральны вікарый кс. Францішак Кісель, канцлер курыі кс. Віктар Місевіч, глыбоцкі дэкан кс. Мікалай Ціхановіч, віцэ-дэкан кс. Андрэй Кулік, новапрэзбітэр кс. Алег Хмылько і пробашч Удзелаўскай парафіі а. Яраслаў Банасяк OFMConv. Слова да прысутных скіраваў кс. Андрэй Кулік, які на прыкладзе прарока Ёны са Старога Запавету, зрабіў “рэвізію” святарскага жыцця.

Пасля Літургіі адбылася канферэнцыя, якую прамовіў духоўны айцец дыяцэзіі езуіт Станіслаў Памыкала. Святар падзяліўся ўласным сведчаннем і пераказваннем з рэкалекцый, у якіх нядаўна ўдзельнічаў.

“Каб не было пустэчы ў жыцці, якую мы (святары) часта запаўняем інтэрнэтам, хобі альбо рознымі непатрэбнымі справамі, мы павінны стаць чальцамі Жывога дома ці Жывой супольнасці. А каб гэта супольнасць магла існаваць і развівацца, павінна быць прабачэнне. Бо дом – гэта месца, дзе ты прабачаеш і табе прабачаюць”, – падагульніў канферэнцыю святар. Затым прысутныя азнаёміліся з намінацыямі, бліжэйшымі планамі і падзеямі ў дыяцэзіі.

Канцлер курыі прадставіў інфармацыю пра калядныя конкурсы, якія запланаваныя на студзень будучага году, і запрасіў святароў і законніц паспрыяць удзелу дзяцей і моладзі ў гэтых мерапрыемствах (3 студзеня 2018 года – конкурс калядная песні “Зорка Бэтлеема” ў Мёрах; 4 студзеня 2018 года – конкурс батлеек у Віцебску).

Штомесячны дзень духоўных сустрэч святароў і законных сясцёр скончыўся супольным абедам.



# Біблійны фланэлёграф і экскурсія ў праваслаўную царкву: спатканне катэхетаў прайшло ў Глыбокім

**16 кастрычніка ў Глыбокім адбылося спатканне катэхетаў Віцебскай дыяцэзіі. Гэтая сустрэча прайшла ў другі раз, і зноў дзверы гасцінна адчыніў і прадаставіў памяшканне гарадскі Дом культуры.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Мерапрыемства распачалося з супольнай малітвы, якую правёў а. Андрэй Сідаровіч MIC, адказны за правядзенне гэтай імпрэзы. На самым пачатку словы прывітання скіраваў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч, які адмыслова завітаў на такое важнае мерапрыемства, дзе можна набыць не толькі новыя веды і спосабы навучання, але і падзяліцца з іншымі сваім вопытам.

Прэзентацыю сучасных мадэляў катэхезы прадставіла с. Таццяна Гмыза, якая цяпер катэхезуе ў Полацку. Манахіня рэпрэзентавала Біблійны фланэлёграф* і іншыя патрэбныя матэрыялы для катэхезы, з дапамогай якіх нашмат лягчэй растлумачыць дзецям вызначаную тэму. Сястра Таццяна ўзгадала, што пажадана і дзецям, і дарослым пакінуць нейкі вобраз ці ўяўленне пасля занятку, каб ім было што ўспомніць.

Таксама была прадстаўлена “Медыя-Азбука па Новым Запавеце” – прэзентацыя, з дапамогай якой можна праверыць веды пасля катэхезаў не ў звычайнай, а ў вельмі цікавай форме. Пасля канферэнцыі мела месца хвілінка дыскусіі, дзе катэхеты маглі задаць пытанне выступоўцы.

Некалькі слоў удзельнікам сустрэчы сказала і с. Нунэ Цітаян, якая выкладае ў Духоўнай семінарыі ў Пінску курс “Практычная катэхеза”. Сястра звярнула ўвагу на вельмі важны момант не толькі для кожнага настаўніка, але і катэхета – на ўменне пісаць канспект. У ім абавязкова павінна быць вызначаныя дыдактычныя і выхаваўчыя мэты. Калі катэхет будзе ставіць перад сабой такія мэты і старанна прадумваць кожныя заняткі, то вынік будзе добры.



Пасля кавы-паўзы, падчас якой усе ахвотныя маглі падзяліцца паміж сабой пэўным выхаваўчым вопытам, катэхетаў чакаў сюрпрыз ад арганізатараў: наведванне глыбоцкай праваслаўнай царквы Нараджэння Багародзіцы, якая да 1867 года была кармеліцкім касцёлам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Аповед і экскурсію ў падзямеллі храма правёў праваслаўны экскурсавод Юрый Калбасіч.

Затым святары, законныя сёстры і свецкія катэхеты накіраваліся ў касцёл, дзе біскуп Алег узначаліў святую Імшу ў інтэнцыі ўсіх, хто ў Віцебскай дыяцэзіі займаецца справай катэхезы, каб заўсёды Эзус Хрыстус з Паннай Марыяй у Сваім Духу былі прысутныя ў часе навучання і давалі натхненне і сілы для добрага праваўдавання Божага Валадарства ў нашай краіне.

*Фланэлёграф – гэта дошка, абцягнутая фланеллю, на якую як аплікацыі мацуюцца выразаныя фігуры. Фігуры можна перамяшчаць па экране, рабіць імі рухі, змяняць карцінку, робячы яе ажыўленай, чаго нельга дасягнуць звычайнай кніжнай ілюстрацыяй.

# Новы святар у Віцебскай дыяцэзіі

## У Глыбокім святарскае пасвячэнне атрымаў дыякан Алег Хмылко



**7 кастрычніка 2017 года ў касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім прэзбітэрскае пасвячэнне з рук Яго Эксцэленцыі біскупа Алега Буткевіча атрымаў дыякан Алег Хмылко.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Святар паходзіць з парафіі Святога Апостала Андрэя ў Лынтупах. Пасвячэнне дыяканату атрымаў 25 лютага 2017 года ў Санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе, дыяканскую практыку праходзіў у Глыбоцкай парафіі.

На ўрачыстасць прыбылі святары як з Віцебскай дыяцэзіі, так і з іншых куткоў нашай краіны, а таксама і з-за мяжы, было шмат вернікаў як з Глыбокага, так і госці з іншых парафій. Прыехалі таксама бацькі, родныя, сябры, настаўнікі і землякі новага святара.

Святая Імша распачалася аб 11-й гадзіне з урачыстага ўваходу святароў і міністрантаў у храм. Узначаліў яе біскуп Алег Буткевіч, які і правёў абрад кансэкрацыі новага святара.

На пачатку набажэнства іерарх прывітаў усіх святароў, дыяканаў, сясцёр законных, міністрантаў і ўсіх вернікаў. Ён адзначыў, што сёння асаблівa ўрачысты дзень не толькі для самога кандыдата на святара, але і для ўсёй Віцебскай дыяцэзіі, а таксама і ўсяго Каталіцкага Касцёла.

Пасля таго, як было прамоўлена Божае Слова, распачаўся сам абрад пасвячэння. Напачатку дыякан Алег пацвердзіў сваю прысутнасць, пасля чаго пробашч Глыбоцкай парафіі ксёндз Мікалай Ціхановіч звярнуўся да біскупа з просьбай аб пасвячэнні новага святара. Іерарх спытаў, ці годны гэта кандыдат? Святар адказаў, што так, годны. Потым біскуп Алег прамовіў гамілію да кандыдата на святарства і да ўсіх прысутных.

Сваё казанне ардынарый распачаў з развагі над тым, чым ёсць святарства. Ён прывёў словы святога Папы Яна Паўла ІІ, што святар з'яўляецца распарадчыкам Божых таямніц. Вось ужо дзве тысячы гадоў працягваецца абрад перадачы святарскай улады. Гэты працэс увесь час патрабуе чалавека. Таму іерарх заклікаў вернікаў маліцца пра новыя пакліканні да святарскага і манаскага жыцця.

Цяпер Касцёл выходзіць з перыяду ваяўнічага атэізму, адзначыў біскуп, зараз ужо можна свабодна вызнаваць веру і хадзіць у храм. Але нам цяжка выйсці з гэтага часу, асабліва калі на вуліцах яшчэ стаяць помнікі камуністычным дзеячам і вуліцы носяць іх імёны.

Цяпер няма ваяўнічага атэізму, але наступіў перыяд практычнага атэізму, калі чалавек сам пачаў лічыць сябе богам. Шмат хто шкадуе маладых святароў, маўляў, маладыя хлопцы, а без сям'і. Навошта гэта?

Шмат і іншых спакус ёсць на святарскай дарозе. Таму святару трэба заўсёды памятаць, што пераадолець усе гэтыя спакусы можна толькі з Езусам Хрыстом. Трэба памятаць, што святарская паслуга – гэта паслуга рук Езуса Хрыста. Гэта Ён Сам дзейнічае праз рукі святара. Таму святарства і з'яўляецца вялікім дарам. А заданне святара – прывязваць людзей не для сябе, а для Бога. А вернікаў біскуп заклікаў маліцца за сваіх святароў, бо святар таксама застаецца чалавекам, якому таксама ўласцівы чалавечыя слабасці. "Таму не асуджайце сваіх святароў, а маліцеся за іх, – сказаў іерарх. – Да гэтага вас заклікаю і адначасова дзякую за вашу малітву".

Біскуп звярнуўся і да ўсіх святароў з заклікам прыняць у сваю сям'ю новага святара і аказаць яму падтрымку.

Іерарх падзякаваў бацькам кандыдата: "Вы, як Марыя, ахвяруеце свайго сына для Пана. Таму радуйцеся з гэтай нагоды. Бо ніякія іншыя дары не параўнаюцца з тымі дарамі, якія атрымае ваш сын у святарстве".

Самому ж кандыдату біскуп нагадаў, што ён частка Божага плану па збаўленні свету.

Пасля гаміліі кандыдат публічна выказаў сваю згоду атрымаць сакрамант святарства. Ён даў клятву паслухмянасці біскупу. На пытанне іерарха, "Ці хочаш атрымаць гэты дар?", кандыдат адказаў: "Хачу з Божай дапамогай!" На што біскуп прамовіў: "Бог, Які распачаў у табе гэту справу, няхай Сам яе завершыць". Пасля дыякан Алег лёг крыжам перад алтаром, а ў храме святары і вернікі маліліся Літаніяй да ўсіх святых аб дарах Духа Святога для новага святара.

Пасля літаніі адбылася галоўная дзея – абрад ускладання рук. Біскуп, а потым і ўсе святары па чарзе ўсклалі свае рукі на кандыдата. Далей біскуп прачытаў кансэкрацыйную малітву, пасля чаго ўжо ксёндз Алег Хмылко апрануў стулу і арнат.

Затым адбылося намашчэнне новага святара, і ён атрымаў з рук біскупа хлеб і віно. Біскуп, а потым і ўсе святары прывіталі ксяндза Алега пацалункам супакою. У касцёле пачаўся абрад Эўхарыстыі, у якім ксёндз Алег упершыню прыняў удзел як святар.

Напрыканцы Імшы ксёндз Алег Хмылко падзякаваў Богу і бацькам за гэты свой дар, які сёння атрымаў. Падзякі атрымалі біскуп Алег Буткевіч, які правёў абрад пасвячэння, ксёндз Павел Кнурэк, пробашч парафіі, дзе ўзрастаў будучы святар, ксёндз Мікалай Ціхановіч, адказны за семінарыстаў у Віцебскай дыяцэзіі і пробашч парафіі ў Глыбокім, дзе ксёндз Алег служыў дыяканам, а цяпер будзе выконваць абавязкі вікарыя. Падзякую атрымаў і ксёндз Аляксандр Баран з Лынтупаў, дзе павінна адбыцца прымiцыйная Імша ксяндза Алега. Падзякаваў новы святар усім аднакурснікам, рэктарам і выкладчыкам Пінскай і Беластоцкай семінарый, дзе ён навучаўся, а таксама ўсім вернікам, што прысутнічалі ў храме. Біскуп у сваю чаргу таксама выказаў падзякі бацькам і ўсім прысутным, а таксама самому ксяндзу Алегу. Ён заклікаў яго памятаць, што ад сённяшняга дня яго рукі належаць Езусу Хрысту.



# Сустрэча праз чвэрць стагоддзя

**Вільня… Вечна жывыя касцёлы… Вострая Брама… Мае дзяды, прадзеды і нават яшчэ мае бацькі, калі былі маладымі, ездзілі ў Вільню ў Вострую Браму, дзе іх заўсёды чакала Міласэрная Маці.**

■ **Лілія Феакцістава**, *парафія Маці Божай Унебаўзятай (в. Канстанцінава, Мядзельскі дэканат)*

Да адпаведнага паваротту ў гісторыі нашай былой вялікай дзяржавы я таксама часта наведвала Вільню, бо дарога была блізкай, усяго восемдзесят вёрст. І ў кожны свой прыезд я старалася пабываць у Вострай Браме, у яе капліцы, каб пакланіцца Маці Божай Вастрабрамскай і пакінуць Ёй свае малітвы, просьбы і падзякі. Тады не трэба было перасякаць мяжу, афармляць візу і Вільня была такой блізкай, такой сваёй і там было неяк па-свойску спакойна.

І вось па волі лёсу праз чвэрць стагоддзя – я зноў там. Гэты адрэзак часу штосьці змяніў і ў маім жыцці, але змянілася і Вільня. Яна стала нейкай чужой і далёкай. І толькі тады, калі я ступіла на старажытны вастрабрамскі брук, узняла галаву і мае вочы спыніліся на такім знаёмым і родным абліччы, былая Вільня адгукнулася ў маёй душы.

Гул машын застаўся за высокай сцяной будынкаў. Людзі, турысты, а было іх тут шмат, размаўлялі ў паўголаса і на розных мовах. У галаве маланкай пранеслася думка, што Бог разумее ўсялякую мову.

І вось я ў да болі знаёмай капліцы. Ногі самі схіліліся і я кленчу перад каронай Непаўторнай Каралевы. Чвэрць стагоддзя тут нічога не змяніла: Яе ласкавы позірк з-пад прыапушчаных павекаў, літасціва прыціснутыя да грудзей рукі, залатыя промні кароны і нават той самы водар белых ружаў і лілеяў.



У мяне па твары коцяцца слёзы. Гэта слёзы радасці спаткання, слёзы падзякі за Яе Міласэрнасць, слёзы просьбы пра заступніцтва, слёзы тугі. Тугі пра тое, ці давядзецца яшчэ калі-небудзь падняцца па гэтых выслізганых стагоддзямі прыступках у Яе капліцу.

Сталы ўзрост. А "жыццёвая ніць вельмі тонка прадзецца". І хацелася бясконца шаптаць: праслаўлёная Дзева Марыя, Маці Міласэрнасці і наша Маці! Для Тваёй Мацярынскай любові не існуе ніякіх межаў і ніякіх падзелаў. Ты ў Хрысце прымаеш кожнага з нас, як Сваё дзіця. Дык падтрымай жа даверлівае чаканне нашых сэрцаў, прыйдзі на дапамогу ў нашых хваробах і цярпеннях, вядзі нас да Хрыста, Твайго Сына, дапамажы нам даверыцца Айцу, Які чыніць вялікія рэчы. О Наймілейшая наша Маці – прытулак грэшнікаў! Прымі маё перапрашэнне і атулі плашчом сваёй Мацярынскай апекі маю сям'ю, маіх родных і блізкіх, маю сінявокую Беларусь.

Больш за гадзіну часу праляцела непрыкметна. Было такое адчуванне, што Яна чуе не толькі кожнае слова маёй малітвы і маёй просьбы, але і кожны мой уздых. Як жа цяжка было пакідаць гэтае намоленае стагоддзямі святое месца! Здавалася, што цябе трымае нейкі моцны магніт і адарвацца ад яго балюча нават фізічна.

Я пакідала капліцу з верай, што кожны, хто будзе маліцца перад гэтым святым абразом Маці Божай Вастрабрамскай, з Яе дапамогай зможа пераадолець любыя цяжкасці і спакусы злога духа і атрымае ўсё, пра што Яе шчыра папросіць.

"...О Маці Міласэрнасці, Святая Марыя! Душу і цела мае даручаю апецы і абароне Тваёй – цяпер і заўсёды і ў хвіліну смерці мае..."!



# Алеі цвярозасці ў Мосары – 10 гадоў

**Споўнілася роўна дзесяць гадоў, як у парку, што пры касцёле Святой Ганны ў Мосары, была пасаджана Алея цвярозасці.**

З гэтай нагоды 7-8 кастрычніка тут сабраліся прадстаўнікі руху АА (Ананімных Алкаголікаў) з Мінска, Віцебска, Докшыц, Паставаў, Шаркаўшчыны і, вядома, з Глыбоччыны.

Ініцыятарам стварэння гэтай Алеі быў ксёндз-пралат Юозас Булька, які шмат зрабіў для прапаганды здаровага ладу жыцця не толькі для сваіх парафіян, але, без перабольшвання можна сказаць, і для ўсёй Беларусі. Па яго ініцыятыве ў 2007 годзе тут сабраліся прадстаўнікі груп АА з розных мясцін краіны, і кожная група пасадзіла сваю туйку ў памяць пра гэту сустрэчу. Так і ўзнікла алея, якая атрымала назву "Алея цвярозасці". Тут жа былі пастаўленыя шыльды з выказваннямі знакамітых людзей пра шкоду п'янства як для грамадства, так і для самога чалавека.

Сёлетняя сустрэча распачалася са святой Імшы, якую ўзначаліў пробашч парафіі ў Мосары ксёндз Марат Казлоўскі. Пасля набажэнства прысутныя ўшанавалі памяць ксяндза Юозаса Булькі, які памёр у 2010 годзе і пахаваны каля касцёла ў Мосары. Да магілы святара ўсклалі кветкі, запалілі зніччы, а таксама была прачытаная малітва за спачылага ксяндза.

Потым удзельнікі наведалі Алею цвярозасці, дзе параўналі цяперашнія дрэвы з тымі, якія яны былі дзесяць гадоў таму. Дрэвы значна выраслі за гэты час, вырасла і жаданне ў гэтых людзей і надалей захоўваць цвярозы лад жыцця.

Увечары 7 кастрычніка адбыўся Крыжовы шлях да Крыжа, што ўсталяваны на гары каля вёскі Мосар. Гэты Крыж лічыцца адным з самых высокіх у Беларусі і пастаўлены яшчэ па ініцыятыве ксяндза Юозаса. Нават надвор'е падтрымала ўдзельнікаў шляху: калі падымаліся на гару, з-за хмараў выглянуў месяц, якога дагэтуль не было відаць. Ён асвятляў шлях вернікам, а пасля сканчэння шляху зноў схаваўся ў хмарах.

У нядзелю ўдзельнікі сустрэчы наведалі парафіяльны музей, што быў створаны яшчэ ксяндзом Юозасам Булькам, а пасля ў Глыбокім экскурсію па храмах правёў Юры Калбасіч.

Удзельнікі засталіся задаволеныя гэтай сустрэчай. Яны выказваюць таксама падзяку прадпрымальніку Варужану Бабаяну, які забяспечыў начлег.

*Ад імя ўдзельнікаў сустрэчы,*
***Віктар Дудкевіч***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |



# Святы Францыск

**Не паверыш, чытач! Вельмі рада пісаць для цябе сёння. У наш час так цяжка знайсці чалавека, з якім можна было б адкрыта і шчыра паразмаўляць пра нашага Бога. І чым старэйшым становіцца мой узрост (не хвалюйся, лічба пакуль не крытычная!), тым больш складана знайсці суразмоўцу ў пытаннях не рэлігіі ў цэлым, а адносінаў з нашым Добрым і Усемагутным Панам.**

**Аксана Нядвецкая**

Але такія людзі ў мяне ёсць. Бачымся мы нячаста, і я цаню кожную хвіліну, праведзеную разам. З тае пары, як стала пісаць для "Каталіцкага Весніка", у мяне з'явіўся і ты, мой сябра-чытач, які штосьці знаходзіш у маіх артыкулах і, спадзяюся, дачытваеш іх да канца. Дык вось, мой даражэнькі аматар "закручаных" тэкстаў, сёння буду расказваць табе пра асобу, знаёмства з якой перавярнула аднойчы мой светапогляд, пра святога, якога я пакуль не зразумела да канца, але моцна люблю і працягваю пазнаваць, чытаю і разважаю пра яго. І малюся – не да яго, а як ён: прашу не прагнуць разумення, а разумець іншых, не шукаць любові да сябе, а любіць іншых.

У тым артыкуле, дзе мы плавілі золата, я абяцала распавесці, якое асаблівае месца займае для мяне святы Францыск. Сваё абяцанне я стрымліваю і расказваю табе пра "асізскага жабрака" ў кастрычніку.

Святы Францыск нарадзіўся ў 1181(2) г. у італьянскім горадзе Асізі. Яго бацькамі былі заможны гандляр тканінамі Пётр (П'етро) Бернардонэ і яго жонка Піка. Калі ў сям'і Бернардонэ нарадзіўся першынец, бацька быў на гандлярскім выездзе ў Францыі. Маці вырашыла хрысціць сына, не чакаючы вяртання мужа. Падчас хросту хлопчык атрымаў імя Ян (у гонар Яна Хрысціцеля), але вярнуўся бацька і назваў сына Францыскам (італ. Francecso – "Французік"), каб падкрэсліць свае добрыя адносіны да краіны, з якой меў гандлёвыя сувязі.

> **Падчас хросту хлопчык атрымаў імя Ян (у гонар Яна Хрысціцеля), але вярнуўся бацька і назваў сына Францыскам (італ. Francecso – "Французік")**

Бацькі далі сыну добрую адукацыю, якая павінна была падрыхтаваць яго да гандлярскага рамяства. Яны прывівалі яму таксама пачуццё гонару і асабістай годнасці. Францішак удзельнічаў у гульнях і забавах разам з равеснікамі. За вясёлы характар хлопца любілі ў яго асяроддзі. Яму падабалася жартаваць і весела спяваць, з ахвотай апранаў ён найлепшае адзенне. Марыў стаць рыцарам, сябраваў з сынамі іншых багатых і вядомых сем'яў, вёў вясёлае, бесклапотнае і марнатраўнае жыццё.

Юнак з "залатой моладзі", мажор з вясёлым норавам і лідарскімі якасцямі сустрэў аднойчы Жывога Бога і пачуў Яго заклік у касцёле св. Дам'яна: "Францыск, ці не бачыш, як зруйнаваны мой касцёл? Ідзі і адбудуй яго!" Зразумеў яго літаральна і стаў адбудоўваць зруйнаваныя святыні вакол Асізі: збіраў каменне і прасіў дапамогі ў працы над аднаўленнем касцёла св. Дам'яна, капліц св. Пятра і Маці Божай Анёльскай. Апошнюю Францыск назваў Парцыункалай (ад лац. "маленькая частка"), яна стане пасля калыскай ордэна францішканаў і месцам, дзе прайшлі апошнія гадзіны святога.

Ад свайго навяртання ў 24-гадовым узросце да смерці ў 45 гадоў святы Францыск прайшоў складаны шлях ад зямных дробязей да поўнага аддання сябе Богу. 14 верасня 1224 г. на гары Альверна падчас саракадзённага посту перад урачыстасцю св. Міхала Арханёла Хрыстос з'явіўся Францыску і падарыў яму ласку стыгматаў. Такім чынам, Францыск за два гады да сваёй смерці стаў першым у гісторыі Касцёла стыгматыкам. Ён меў усе пяць ран Хрыста, і яго часта называюць Alter Christus – Другім Хрыстом.

Францыск – адзін з самых папулярных каталіцкіх святых, якім захапляюцца не толькі католікі. Ён лічыцца найбольш вядомым святым нават сярод нявернікаў. Францыска называюць першым хіпі, рэвалюцыянерам і рэфарматарам Касцёла, рамантычным героем. Насамрэч, у яго жыцці не было нічога асаблівага, ён проста кіраваўся Евангеллем і стараўся быць падобным да Езуса. Любіў прыроду, хваліў Пана і захапляўся Яго стварэннямі, дапамагаў пракажоным, цаніў беднасць, сціпласць, братэрства, змагаўся са спакусамі цела, захоўваў суровыя пасты, цешыўся з малітваў і з прабывання разам з Панам, быў проcтым і радасным.

Так я сцісла расказала табе, чытач, біяграфію святога Францыска. Я слаба веру, што ў мяне атрымалася годна перадаць табе асобу гэтага неардынарнага святога *(гэта наўрад ці можна зрабіць у адным артыкуле)*, таму паспрабую расказаць, як знаёмства з ім адлюстравалася і працягвае адлюстроўвацца на маім жыцці – рэальным жыцці рэальнай хатняй гаспадыні з мужам, дзецьмі і абавязкамі ў нашай краіне ў наш час (гэта, магчыма, атрымаецца ў мяне лепш).

Мне было 15, калі ў маім жыцці з'явіўся францішканін айцец Лех. Я ўжо пісала пра гэта, не буду паўтарацца. Скажу толькі, што ў той час я лічыла, што галоўнае ў жыцці – гэта здароўе (пад уздзеяннем старэйшага пакалення сям'і) і добра, вельмі добра вучыцца ў школе. Усё астатняе не так важна і можа быць па-любому, галоўнае, гэтыя дзве "каштоўнасці" не страціць. Так, быў яшчэ індывідуалізм (пра гэта нават дзіўна зараз успамінаць, цяпер у мяне вялікая сям'я, і асабістай тут можа быць толькі думка), шчырая ўпэўненасць, што кожны сам за сябе, нельга нікому давяраць, сорамна ў кагосьці штосьці прасіць, трэба рабіць усё самой (па магчымасці ідэальна) і самой адказваць за свае ўчынкі.

І тут прыйшоў просты францішканін, які стаў задаваць пытанні і дзяліцца сваёй верай і сваім святым Францыскам. Як гэта адбывалася, не буду зараз расказваць, скажу толькі, што з гэтага атрымалася.

Мне 32, я спакойны і радасны чалавек. Я паставіла Пана Бога на першае месца, і тая ўнутраная свабода, якая ад гэтага паявілася, не можа не радаваць мяне. Я не баюся пра штосьці прасіць і сама ахвотна дапамагаю людзям, проста прашу і проста дапамагаю. Я часта думаю пра паняцці братэрства, таварыства, супольнасці і накладваю іх на маё жыццё – на сям'ю, сяброў, бацькоў аднакласнікаў маіх дзяцей, суседзяў, пасажыраў тралейбуса, у якім еду, на ўсе мае сувязі стараюся глядзець праз прызму братэрства і супольнасці. Мне здаецца, я добры і адчувальны чалавек, занадта добры і адчувальны для нашага часу, як кажуць, але я з гэтым не змагаюся.

Я не баюся нічым заразіцца, не баюся публічных месцаў, вялікай колькасці людзей, не баюся чужых прадметаў і стасункаў з незнаёмымі людзьмі, люблю простую ежу і простыя ўмовы. І я моцна люблю святога Францыска: як сябра, як асобу – харызматычную і непасрэдную, як прыклад веры і любові да Бога. Мне здаецца, што сярод рэчаў, якія адрозніваюць мяне ад тысяч іншых хатніх гаспадынь з мужам, дзецьмі і абавязкамі, ёсць і мой досвед святога Францыска.

> **Францыск – адзін з самых папулярных каталіцкіх святых, якім захапляюцца не толькі католікі. Ён лічыцца найбольш вядомым святым нават сярод нявернікаў**

Зараз некалькі момантаў, без якіх я проста не магу скончыць свой артыкул. Датычацца яны беднасці "слаўнага сына Асізі" і неардынарнасці яго натуры. Без іх святы Францыск не быў бы да канца самім сабой і не падабаўся б мне так моцна.

Спачатку Францыск жыў разам са сваімі братамі, аднак "в скиту ему было недостаточно одиноко", таму браты (!) пабудавалі для Францыска асобнае памяшканне, каб ніхто не парашкаджаў іх пакорліваму айцу хваліць Пана Бога і размаўляць з Ім сам-насам.

Калі здароўе пачало падводзіць Францыска (суровыя пасты і жорсткасць да цела зрабілі сваю справу), клопаты пра сваё цела ён перадаў чатыром (!) братам –"были это мужи доблести, Господу преданные, святым угодные и людям любезные, и на них, словно дом на четырех столбах, утвержден был святой отец Франциск".

І самая кранальная для мяне – гісторыя пра спадарыню Джакому і яе ласунак, якім яна адначасна частавала Францыска падчас хваробы. Калі Францыск зразумеў, што хутка прыйдзе да яго сястра Смерць, папрасіў братоў перанесці яго ў царкву Маці Божай Анёльскай. Там ён паклікаў аднаго з братоў і прадыктаваў ліст да знакамітай рымскай пані, у якім прасіў яе паспяшацца, калі хоча ўбачыць яго жывым. "И принеси с собой ткань для власяницы, чтобы обернуть тело мое, и свечи, потребные для погребения. И еще, прошу, принеси мне того лакомства, каким угощала ты меня, когда я хворал в Риме", – вось апошнія радкі гэтага ліста, які так і застаўся недапісаным. Пакуль "сказывал он это письмо", Пан Бог адкрыў яму, што пані Джакома ідзе да яго, ужо побач, і нясе з сабой тыя рэчы, пра якія ён просіць. Тады Францыск сказаў брату, каб перастаў пісаць, бо ў гэтым ужо няма неабходнасці, але не растлумачыў усім прычыну, ад чаго браты дзівіліся і стаялі разгубленыя. Неўзабаве ў дзверы манастыра пастукалі, хтосьці з братоў адчыніў – і вось на парозе спадарыня Джакома, "благороднейшая дама Рима" з двума сынамі-сенатарамі і безліччу коннікаў. І засталася там спадарыня аж да смерці святога і да яго пахавання, "сотворила она ему великие погребальные почести со всеми своими людьми", і ўсе выдаткі аплаціла. Так наш пакорлівы "асізскі жабрачок", які памёр на голай зямлі без адзення, быў пахаваны з вялікай павагай і дастатковай пышнасцю за кошт багатай рымскай пані.

Паводле майго першага сцэнара напрыканцы артыкула я збіралася паведаміць табе, чытач, што не вельмі люблю падарожнічаць, не чакаю асаблівых уражанняў ад новых краін і славутых мясцін, але сярод краін і гарадоў, у якіх ёсць патрэба і моцнае жаданне пабываць, на першым месцы ў мяне Італія і Асізі. Я планавала расказаць, як абавязкова патраплю ў Асізі, прайду сцежкамі святога Францыска і дакрануся да храмаў, каторыя адбудоўвалі яго святыя рукі. Думаю, што дзесьці там я ўсё ж такі здыму абутак і адчую цяпло зямлі, якая падарыла свету Другога Хрыста.

Аднак я не ўпэўнена, што калі-небудзь там пабываю, баюся, што не адчую там прысутнасці святога (можа быць і такое) і не ведаю, здыму я там абутак ці разгублюся, забудуся на гэту сваю мару або не дачакаюся адпаведнага моманту, і ўсе мае апісанні застануцца тады прыгожымі словамі, якія існуюць толькі на паперы. Таму я скончу мой артыкул пра святога Францыска апісаннямі нязначных падзей, якія ўжо адбыліся ў маёй сям'і падчас працы над гэтым тэкстам.

Я выконвала свае шматлікія абавязкі, трэба было займацца дзецьмі, але даведацца больш пра святога Францыска мне вельмі хацелася, таму я вырашыла сумясціць прыемнае з карысным – запрасіла мужа і сына паглядзець са мной фільм "Брат Солнце, сестра Луна" Франка Дзефірэлі (ім нават спадабалася) і чытала дзецям гісторыі пра Францыска, калі ўкладвала іх спаць. Раней я не заўважала, каб ім падабаліся такія аповеды. А тут не толькі зацікавіліся, але і палюбілі. Мая пяцігадовая дачка цяпер ведае, чаму брата Леа Францыск называў братам Ягня, чаму жаваранкі, якія з адкідаў здабываюць сабе ежу і спевам сваім праслаўляюць Пана, так падабаліся святому, і як гэтыя сціплыя птушкі развіталіся з ім увечары 3 кастрычніка. А мая маленькая, што нядаўна прыставала да мяне з Пеўнікам і Коцікам-брацікам, цяпер пераключылася на Францыска і брата Воўка. І калі ў нас дойдзе да разыгрывання па ролях, Францыска я вазьму на сябе.

# Пастырскі візіт у Пятроўшчыну

**Візітацыя біскупа Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча адбылася ў суботу, 7 кастрычніка.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Адметнасць парафіі ў Пятроўшчыне (Глыбоцкі дэканат) – знаходжанне тут дзіцячага летніка, дзе кожны год праходзяць "Канікулы з Богам". Парафію абслугоўваюць айцы-францішкане, з якімі іерарх і прыбыў. Біскупа сустрэла шмат моладзі, высокаму госцю паднеслі каравай.

Пасля сустрэчы распачалася святая Імша, якую ўзначаліў біскуп Алег. На набажэнстве прысутнічалі айцы-францішкане Яраслаў Банасяк і Вальдэмар Куява, а таксама айцы-аблаты Анджэй Юхневіч і Дзмітрый Занямонскі. Акрамя вернікаў невялікай парафіі ў Пятроўшчыне, на ўрачыстасць прыехалі госці з Шаркаўшчыны, Удзела, Мёраў, Глыбокага.

Айцы Анджэй і Дзмітрый праводзілі ў гэты час Святыя місіі ў Удзелаўскай і Пятроўшчынскай парафіях, таму слова да вернікаў прамовіў айцец Дзмітрый. Ён паразважаў, кім у нашым жыцці з'яўляецца Марыя. Святар распавёў гісторыю пра тое, як аднойчы ў купэ цягніка ехалі стары святар і жанчына з маленькай дачкой. Святар маліўся на брэвярыі і з яго выпаў маленькі абразік з выявай Марыі. "Хто гэта? – спытала дзяўчынка. – Гэта мая мама, – адказвў святар. – Але ж яна да цябе непадобная, – усумнілася дзяўчынка, прыглядзеўшыся да святара. – А я ўсё жыццё так стараўся быць падобным да яе", – адказаў святар.

Так і мы, – адзначыў айцец Дзмітрый, – павінны ўсё жыццё старацца быць падобнымі да Божай Маці, бо Яна з'яўляецца Маці для кожнага з нас. Гэта праўда, у якой нельга сумнявацца. А мама – гэта самы блізкі для нас чалавек. Яна любіць нас не за нешта матэрыяльнае, а толькі за тое, што мы ёсць. Так ёсць і з Марыяй.

Марыя заўсёды вядзе нас да Езуса. Яна хоча, каб мы таксама былі ў небе. Таму ўсім нам трэба прасіць ласкі навяртання для сябе і нашых блізкіх. Трэба імкнуцца быць падобным да Яе, бо Марыя – гэта ўзор хрысціянскага жыцця. А самае прыгожае ў Маці Бога – гэта Яе вера.

Сёння нам не хапае даверу да Бога. Трэба, як у свой час Марыя, Яму давярыцца. І трэба прасіць у гэтым дапамогі Марыі, асабліва ў кастрычніку, месяцы, які прысвечаны ружанцовай малітве.

Напрыканцы Імшы вернікі выказалі падзякі біскупу, айцам-францішканам, якія працуюць у парафіі, і айцам-місіянерам і падарылі ўсім кветкі. А Валянціна Арэхва, каторая з'яўляецца кіраўніком дзіцячага летніка ў Пятроўшчыне, прачытала прыгожы верш "Маліцеся за святароў". Біскуп у сваю чаргу падзякаваў усім за прысутнасць і ўдзяліў пастырскае блаславенне.

Пасля Імшы моладзь паказала іерарху прэзентацыю, у якой распавядалася пра дзейнасць летніка, а таксама праспявала некалькі песняў пад гітару. А напрыканцы зрабілі агульны здымак на прыступках будынка. Як адзначыў біскуп Алег Буткевіч, у Пятроўшчыну ён прыехаў не ўпершыню, ён быў тут яшчэ да свайго святарскага пасвячэння, а вось з афіцыйнай візітацыяй як кіраўнік дыяцэзіі прыбыў сюды ў першы раз. Ён звярнуў увагу на дальнабачнасць ксяндза Юозаса Булькі, які ў свой час прыняў рашэнне арганізаваць тут летнік і шмат для гэтага зрабіў. Ужо мінула больш за сем гадоў, як гэты святар адышоў у іншы свет, а яго справа працягвае жыць тут і ў Мосары, і ў іншых мясцінах нашай дыяцэзіі.





# Беларусь у "святых" гербах: Шарашова

**Герб Шарашова для звычайнага чалавека мае ў сабе дзве загадкі. Гэта, безумоўна, пытанне пра выяву святога, але таксама і пытанне з яшчэ большай інтрыгай: як на выяву беларускай мясцовасці трапіла пальма?**

■ **а. Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*



Пальма, якую бачым на гербе Шарашова, не звязана з нейкай адметнасцю гэтай мясцовасці. Жыхары названага мястэчка ні раней, ні сёння не займаліся і не займаюцца вырошчваннем бананаў або іншых трапічных фруктаў. Ды і гістарычныя крыніцы не згадваюць пра нейкую незвычайную аранжарэю з заморскімі раслінамі. Пальма, не тыповая для нашага паўночнага клімату, з'яўляецца часткай мастацкага сюжэта, каб мы маглі распазнаць святога. Хаця, калі быць шчырым, то гэтая дэталь больш блытае, чым дапамагае. Бо на якую краіну яна паказвае? Адразу можна прыдумаць прынамсі некалькі варыянтаў.

У сучаснай версіі герба з 1998 г. цяжка вызначыць, хто з'яўляецца апекуном мясцовасці. І сама постаць, і атрыбуты не выступаюць дастатковай падказкай. Белая лілея ў руцэ сустракаецца ў выявах шматлікіх святых. Адзенне, падобнае да літургічнай вопраткі дыякана, можа толькі нас яшчэ больш заблытаць. Практычна можна толькі здагадвацца, хто перад намі.



У дакуменце з 1792 года, які вяртаў гарадскія правы Шарашову, ёсць і выява герба з апісаннем, каторае падкрэслівае, што гэта святы Арханёл Габрыэль. Постаць знаёмая кожнаму хрысціяніну, які ўважліва чытае Новы Запавет. Найчасцей на абразах Арханёл Габрыэль быў маляваны ў сцэне Звеставання Марыі. Яго неадлучаным атрыбутам была лілея, але яшчэ таксама і крылы анёла. Вельмі часта на абразах каталіцкай традыцыі Габрыэль трымае ў руках разгорнуты світак з надпісам на лацінскай мове "Ave Maria"або "Ave Maria gratiaplena", што перакладаецца як"Вітай Марыя" або "Вітай Марыя, поўная ласкі".




Калі прыглядзецца да старадаўняй гарадской пячаткі Шарашова, то мы ўбачым, што постаць на ёй сапраўды мае крылы.



Цікава, што выканаўца герба з 1792 года не выкарыстаў кананічных для таго часу элементаў, каб зрабіць постаць Габрыэля больш выразнай, пазнавальнай. Пальма нібыта мела заданне перанесці нас у Святую Зямлю, дзе адбылося Звеставанне, але ў нас яна асацыюецца найперш з Егіптам, з пустыняй, з аазісам. Якія б ні былі матывацыі аўтара герба, пальма захавалася да сёння як доказ творчай адважнасці мастака.

# “Не бойцеся пазнаваць сябе, прымаць сябе і жыць у шчырасці!”

## Інтэрв'ю з хрысціянскім псіхолагам Таццянай Палхоўскай



**У сённяшнім нумары “Каталіцкага Весніка” – размова з хрысціянскім псіхолагам, кансультантам і сямейным псіхатэрапеўтам Таццянай Палхоўскай.**

**– Паважаная Таццяна, распавядзіце крыху пра сябе.**

– З 2010 года я працую псіхолагам. У мяне вышэйшая псіхалагічная адукацыя. Я скончыла першую ступень Гештальт Інстытута. Спецыялізацыі – “Псіхалагічнае кансультаванне”,“Сямейная псіхатэрапія”. А таксама праграму “Next” для тых людзей, якія перажылі ў сваім жыцці рознага кшталту гвалт (эмацыйны, фізічны, сексуальны, псіхалагічны). Цяпер я заканчваю спецыялізацыю “Групавая псіхатэрапія”. Ёсць яшчэ пэўная колькасць тэм, у якіх планую прафесійна развівацца.

Шлях да маёй прафесіі быў доўгім і няпростым. Я малілася пра пакліканне. І да самага паступлення ва ўніверсітэт нават не ўяўляла, чым сапраўды хачу займацца. У той момант я сур’ёзна думала пра кляштар. Тады вырашыла, што псіхалагічная адукацыя не пашкодзіць у любым маім рашэнні. Зараз я цікаўлюся многімі рэчамі, аднак псіхалогія падабаецца найбольш. Таму ніколькі не пашкадавала пра свой выбар. Я вельмі люблю сваю працу. Яна для мяне – благаслаўленне і натхненне, мой драйв і маё жыццё.

**– Калі людзі звяртаюцца па параду да псіхолага?**

– Часцей за ўсё людзі звяртаюцца па кансультацыю ўжо ў вельмі крайніх выпадках. Гэта можна патлумачыць тым, што ў Беларусі, на жаль, пакуль слаба развіта разуменне важнасці дапамогі псіхолага. Людзі звяртаюцца, калі з пэўнай праблемай не могуць справіцца ніякімі іншымі спосабамі. Хоць часам і не разумеюць, які вынік могуць атрымаць пасля псіхатэрапіі. Час ад часу прыходзяць людзі больш свядомыя ў сваіх жаданнях. Яны разумеюць, што можна развівацца, можна спрабаваць палепшыць якасць свайго жыцця, а не толькі жыць нейкімі ўяўленнямі. Разумеюць і тое, што псіхалагічны супакой, псіхалагічнае развіццё можа ўплываць на якасць жыцця не залежна ад розных вонкавых абставін.

**– З якімі праблемамі зараз найчасцей прыходзяць людзі?**

– Найчасцей людзі звяртаюцца з праблемамі стасункаў у сям’і. Гэта і эмацыйныя, і сексуальныя аспекты, адносіны паміж бацькамі і дзецьмі, паміж сужэнцамі. Ёсць тыя, што звяртаюцца з праблемай павышанай трывогі, нейкіх моцных страхаў. Таксама з праблемамі харчавання, з сексуальным жыццём. Увогуле шмат розных праблем.

**– Што найбольш складанае ў працы псіхолага?**

– Найбольшая цяжкасць, з якой я сутыкаюся, – патлумачыць кліентам, што я, як і любы псіхолаг, не магу даць адказаў на ўсе пытанні. Людзі часта думаюць, што я штосьці скажу, і іх праблемы адразу вырашацца. Важна ведаць, што псіхолагі амаль ніколі не даюць парадаў. Задача псіхолага – разабрацца, што адбываецца з чалавекам, праз якія этапы ён праходзіць, што найбольш важнае ў яго жыцці, адкуль пачынаецца праблема, з якой ён прыйшоў, як яна ўздзейнічае на розныя сферы яго жыцця. Калі мы пачынаем усё гэта разбіраць, то пасля чалавек спрабуе перажыць свае эмоцыі, нанова сутыкнуцца з пэўнымі глыбіннымі, падсвядомымі праблемамі, спрабуе вярнуцца ў сваё мінулае жыццё. Таму ўсё гэта доўгі і складаны шлях. Псіхатэрапія – гэта адказнасць двух бакоў за тую працу, якая будзе адбывацца на кансультацыях.

Праца псіхолага і кліента заснавана на пазнанні сябе, сваіх эмоцый, рэакцый. Яна складаная і двухбаковая.

**– Вы з’яўляецеся хрысціянскім псіхолагам. А чым, на Вашу думку, адрозніваецца хрысціянскі псіхолаг ад нехрысціянскага?**

– Так, я хрысціянскі псіхолаг. Мая праца благаслаўлёная біскупам Юрыем Касабуцкім. Аднак розніца паміж свецкім і хрысціянскім псіхолагам вельмі ўмоўная. Калі псіхолаг з’яўляецца сапраўдным прафесіяналам, то ў працы нейкая розніца будзе незаўважная. Называю сябе хрысціянскім псіхолагам таму, што я сама каталічка з дзяцінства. Я – верніца-практык. Гэта значыць, што мае кліенты могуць не хвалявацца, што іх не зразумеюць, пасмяюцца або будуць лячыць ад веры, ад кантакту з Богам. На жаль, так час ад часу здараецца. У мяне былі людзі, якія мелі дрэнны досвед працы з псіхолагам. Ён раіў сваім клієнтам завесці палюбоўніка, зрабіць штосьці супраць сумлення. Сапраўдны ж прафесіянал будзе працаваць у той парадыгме, у якой жыве кліент. Псіхолаг не мусіць навязваць свае погляды іншым.

Я таксама не навязваю сваіх поглядаў. Да мяне прыходзяць і атэісты, і агностыкі.

> **“часам патрабуецца сумесная праца святара і псіхолага”**

І з веравызнаннем ніякіх праблем у нас звычайна не ўзнікае. Аднак магу сказаць, што з хрысціянамі мне працаваць камфортна. Я разумею іх адчуванні, разумею, як у іх складваецца кантакт з Богам і Касцёлам.

**– Дапамога святара і дапамога псіхолага. У чым розніца?**

– Часам я звяртаюся па дапамогу да святароў. Бо святары працуюць з духоўнай сферай чалавека, а псіхолагі – са сферай падсвядомасці, гісторыі чалавека і з прынцыпамі яго развіцця. Таму часам патрабуецца сумесная праца святара і псіхолага. Бывае і так, што святары даюць мой нумар тэлефона сваім вернікам. Бо чалавек думае, што ў яго духоўная праблема, а святар падазрае, што ёсць і псіхалагічныя аспекты. Тады кожны з нас працуе ў сваёй сферы.

**– Якім чынам можна звярнуцца да Вас па кансультацыю?**

– Кожны чалавек можа звярнуцца да мяне, патэлефанаваўшы па нумары **+375 (29) 561-58-08**.

Часта мае кансультацыі праходзяць у Мінску, у касцёле св. Сымона і Алены (Чырвоны касцёл) і ў парафіі Святога Роха на Залатой Горцы. Але могуць быць і іншыя раёны горада. Таксама ёсць магчымасць кансультацыі праз Viber. Гэта своеасаблівыя анлайн-сустрэчы для тых людзей, якія звяртаюцца з розных гарадоў краіны, ці, напрыклад, для беларусаў, што жывуць за мяжой.

Кансультацыі платныя. Плата па дамоўленасці. З кожным мы размаўляем пра фінансавыя магчымасці. У мяне бываюць кліенты, якія зусім не плацяць за кансультацыі, бо часам існуюць нейкія сур’ёзныя фінансавыя сітуацыі.

Я спадзяюся, што мая інфармацыя камусьці дапаможа. Магчыма, нехта сумняваецца, але мае патрэбу ў дапамозе псіхолага. Я буду рада сустрэцца, пракансультаваць і паразмаўляць!

**– Што б Вы пажадалі нашым чытачам?**

– Не бойцеся пазнаваць сябе, прымаць сябе і жыць у шчырасці!

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***

# Ці з’яўляецца сённяшняя Беларусь хрысціянскай?

**Чытачы “Каталіцкага Весніка” выказалі свае меркаванні пра тое, ці з'яўляецца сёння хрысціянскай наша краіна.**

**Прапануем Вашай увазе вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі.**



- У нейкай ступені – 107 адказаў;
- так, безумоўна – 75 адказаў;
- 50/50 – 68 адказаў;
- думаю, што не з'яўляецца – 39.

**Усяго – 289 апытаных.**

**Каментарый чытача “Каталіцкага Весніка” на Фэйсбуку:**

**Аляксей Філіпенка:** ***“Свецкая краіна з глыбокай традыцыяй як хрысціянства, так і атэізму”.***

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

# ТЭСТ пра музыку ў Касцёле

**“Каталіцкі Веснік” прапануе вам прайсці тэст на веданне музыкі ў хрысціянскай сферы.**

1 Хто з пералічаных асобаў самы знакаміты музыка ў Біблії?



А. Цар Саул;
Б. Цар Давід;
В. Цар Навухаданасар

2 Гэты спеў – духоўны гімн нашай краіны. Словы напісала Наталля Арсеннева, а музыку – Мікола Равенскі.



А. Малюся за цябе, Беларусь;
Б. “Малітва” (“Магутны Божа”);
В. “Малітва за Беларусь”

3 Як называюцца беларускія семінарыйныя музычныя гурты?



А. “Подых Духа” і “Ave”;
Б. “Рыбы” і “Небасхіл”;
В. “Laudans” і “Подых Духа”

4 Што не спяваюць у часе святой Імшы падчас Вялікага посту?



А. “Аллелюя” і “Хвала на вышынях Богу”;
Б. “Аллелюя”;
В. “Хвала на вышынях Богу” і “Святы, святы, святы…”

5 “Хто спявае, той двойчы моліцца”. Якому святому належаць гэтыя словы?



А. Святому Аўгустыну;
Б. Святому Яну Паўлу ІІ;
В. Святому Вацлаву

6 Якую назву маюць майстар-класы літургічнай музыкі і спеваў праслаўлення, што адбываюцца летам у Івянцы і яднаюць таленавітую каталіцкую моладзь?



А. “Музычная майстэрня”;
Б. “Дастукацца да нябёсаў”;
В. “Laudato Si”

7 Імя святой, якая з’яўляецца апякункай касцельнага спеву…



А. Святая Марта;
Б. Святая Клара;
В. Святая Цэцылія

8 У літургіі – гэта фрагмент з Бібліі, які заўсёды спяваюць паміж чытаннямі…



А. Псальм;
Б. Прэфацыя;
В. Секвенцыя

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

**Правільныя адказы на тэст глядзі на стар. 12**

# Пакліканне як таямніца: ксёндз Ян Рамаоўскі і яго шлях да святарства



**У сённяшнім нумары “Каталіцкага Весніка” – размова пра пакліканне ксяндза Яна Раманоўскага, які з’яўляецца прэфектам (выхавальнікам) у Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.**

Нарадзіўся ксёндз Ян у 1987 годзе ў мястэчку Радунь, што знаходзіцца ў Воранаўскім раёне, у каталіцкай сям’і. Святар успамінае некаторыя моманты з дзяцінства, калі пачаў знаёміцца з Касцёлам: “Дзесьці ў трэцім класе мае сябры мяне прывялі ў міністранты. Ад гэтага моманту ў маім жыцці пачаўся блізкі кантакт з парафіяльным жыццём. У нашым касцёле служыла вельмі многа святароў, дыяканаў, якія праводзілі катэхезы і працавалі з дзецьмі і моладдзю. У той час я стараўся ўдзельнічаць у гэтых сустрэчах. Аднак, на самай справе, я ніколі не задумваўся пра тое, каб быць святаром. У мяне былі ўвогуле іншыя планы і мары адносна маёй будучыні”.

**„Калі трэба было ісці на катэхезу, я прыдумваў розныя адгаворкі. Часам гэта было прычынай канфліктаў з маімі бацькамі“**

Дзесьці ў 14-гадовым узросце юнак пачынае перажываць своеасаблівы крызіс веры. Перастае ўдзельнічаць у катэхезах, ужо не служыць міністрантам: “Я не заўжды з радасцю хацеў ісці на нядзельную святую Імшу, мяне цікавілі ўвогуле іншыя рэчы. Калі трэба было ісці на катэхезу, я прыдумваў розныя адгаворкі. Часам гэта было прычынай канфліктаў з маімі бацькамі”.

Так працягвалася да таго моманту, пакуль у 2003 годзе ў родную парафію хлопца не прыехаў новы дыякан, знаёмства з якім змяніла вельмі многае. Тады зноў пачаліся наведванні катэхезаў, праз нейкі час адбылося вяртанне ў міністранты, потым штодзённыя святыя Імшы, дыяцэзіяльныя Дні моладзі…

Святар успамінае: “Гэта быў такі час пошуку сябе і сваёй будучыні. Аднаго разу ў мяне запыталі, ці хацеў бы я пайсці ў семінарыю, з чаго я толькі пасмяяўся. Але ад таго моманту ўнутры мяне пачало прарастаць гэтае зерне паклікання. Я даходзіў да святарства паступова, асабліва ў апошнія гады навучання ў школе. Удзельнічаў таксама ў самых першых рэкалекцыях для юнакоў у семінарыі ў Гродне. Думаў пра святарства, але шмат пра гэта не гаварыў”.

Пасля заканчэння школы ў 2005 годзе хлопец ужо дакладна ведаў, што хоча прысвяціць сябе служэнню Богу і людзям.

**„…пакліканне застаецца таямніцай нават для самога пакліканага“**

Цяпер, пасля сямі гадоў семінарыйнай фармацыі і пяці гадоў святарства, ксёндз Ян вельмі ўдзячны Богу за дар свайго паклікання: “Тое, што я магу служыць і дапамагаць людзям, прыносіць мне многа радасці і дае пачуццё шчасця”.

Хочацца адзначыць, што на шляху святара не было нейкіх надзвычайных сітуацый ці з’яў. Яго пакліканне фарміравалася паступова, пры дапамозе людзей, якіх Госпад паставіў і надалей накіроўвае на яго жыццёвым шляху.

У заключэнне ксёндз Ян выказаў такую думку: “Для мяне праўда пра пакліканне да святарства з’яўляецца ў поўным сэнсе сферай толькі асабістых адносін з Езусам, якія не кожны можа зразумець і пра якія не атрымаецца ўсё распавесці, таму, што пакліканне застаецца таямніцай нават для самога пакліканага”.

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***

# Каляндар на лістапад



**Лістапад – гэта цудоўная магчымасць атуліць малітвай не толькі памерлых родных і блізкіх, але і ўсіх тых, хто адышоў да дому Айца. Калі мы верым, што разам са смерцю жыццё чалавека не заканчыцца, а толькі зменіцца, то павінны таксама ўсведамляць, наколькі вялікая наша адказнасць за памерлых. Мы ўжо не можам сустрэцца з імі фізічна, але маем магчымасць спаткацца ў знаку веры – у малітве, у святых Сакрамантах, ва ўчынках міласэрнасці для бліжніх.**

**1 лістапада – урачыстасць Усіх Святых.**

У гэты дзень успамінаюць не толькі тых, хто быў афіцыйна абвешчаны святым або благаславёным, але і невядомых нам святых. Можна сказаць, што першага лістапада ўшаноўваюцца адразу ўсе тыя, хто здабыў вечнае шчасце. Карані дня Усіх Святых ідуць у IV стагоддзе. Тады ў Антыёхіі ўшаноўвалі памяць шматлікіх пакутнікаў, імёны якіх не былі вядомыя. У 610 годзе, калі Папа Баніфацый IV атрымаў ад імператара Рымскай Імперыі старажытную язычніцкую свяtyню Пантэон, туды былі перанесены многія рэліквіі пакутнікаў. І гэты будынак асвяцілі як храм Маці Божай Пакутнікаў. З датай згаданай падзеі было звязана рымскае свята Усіх Святых. Спачатку ўшаноўваліся толькі Дзева Марыя і тыя, хто памёр за веру. У наступныя стагоддзі ўзнік культ "вызнаўцаў" – духоўных пакутнікаў. Таксама як пакутнік сваёю смерцю станавіўся сведкам Хрыста, так вызнаўца даваў сведчанне сваім жыццём. Гэтая ўрачыстасць з'яўляецца абавязковай.

**2 лістапада – успамін усіх памерлых.**

У гэты дзень можна атрымаць поўны адпуст тым, хто наведае могілкі, а таксама выканае адпаведныя ўмовы: трэба быць пасля споведзі, прыняць Святую Камунію і памаліцца ў інтэнцыі Святога Айца.

**12 лістапада – урачыстасць святога Язафата Кунцэвіча, апекуна Віцебскай дыяцэзіі.**

Знакаміты ўніяцкі дзеяч паходзіў з Уладзіміра Валынскага, з мяшчанскай сям'і. Нарадзіўся каля 1580 года. Юнаком па жаданні бацькоў накіраваўся ў Вільню, каб авалодаць прафесіяй купца. У Вільні ён сутыкнуўся з руплівымі духоўнікамі і ўключыўся ў інтэнсіўнае жыццё і справы маладой уніі. У 1604 годзе прыняў базыліянскі габіт, а пазней – пасвячэнні перадпыяканату і дыяканату. Адначасова распачаў тэалагічнае служэнне, а ў 1609 годзе прыняў святарскае пасвячэнне і быў прызначаны апекуном навіцыяту. Праз сваю старанасць атрымаў мянушку "душахват". Настаяцелі давяралі яму новыя, усё больш адказныя пасады і працу. У 1613 годзе ён быў прызначаны архімандрытам у касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Вільні, а ў 1617-ым атрымаў прызначэнне на месца полацкага каад'ютара. 12 лістапада 1623 года быў забіты ў часе барацьбы паміж абаронцамі і праціўнікамі уніі. Цела арцыбіскупа ўтапілі ў Дзвіне. Беатыфікацыю здзейсніў Папа Урбан VIII у 1642 г., а кананізацыю – Папа Пій XI у 1867 г. Рэліквіі, знойдзеныя ў 1916 годзе ў Белай Падляскай, былі перавезеныя ў Вену, а потым у базыліку св. Пятра ў Рыме, дзе і захоўваюцца.

**16 лістапада – успамін Маці Божай Вастрабрамскай.**

У кожнай хрысціянскай краіне ёсць абраз Маці Божай, які з'яўляецца сімвалам абароны і заступніцтва народа. Вось і ў Літве ёсць ікона Маці Божай, якая ўшаноўваецца каталікамі і праваслаўнымі з асаблівай і глыбокай павагай. Гэты абраз знаходзіцца ў капліцы Вострай Брамы ў Вільні. Тут у Панны Марыі шукаюць суцяшэння не толькі мясцовыя жыхары, але і пілігрымы з многіх краін. Урачысты акт каранацыі абраза паводле дэкрэта Папы Пія XI быў здзейснены 2 ліпеня 1927 года Мітрапалітам Варшаўскім кардыналам Аляксандрам Какоўскім у прысутнасці ўсяго польскага епіскапату, Юзафа Пілсудскага і Прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага перад катэдральным саборам пад праліўным дажджом. Пасля каранацыі ў 1928 годзе абраз быў змешчаны ў капліцы ў адмысловым металічным кантэйнеры, які засцерагае яго ад пажараў і злодзеяў. Маці Міласэрнасці з Вострай Брамы ў Вільні шануецца ўсімі хрысціянамі як заступніца Беларусі і Літвы. Святочным днём ушанавання іконы лічыцца 16 лістапада. Штогод у перыяд святочнага тыдня здзяйсняюць паломніцтвы ў Вільню на свята Маці Божай Вастрабрамскай тысячы пілігрымаў. Яе абраз ёсць у шматлікіх беларускіх храмах – як каталіцкіх, так і праваслаўных.

**21 лістапада – Ахвяраванне Найсвяцейшай Панны Марыі.**



**26 лістапада – урачыстасць Хрыста Валадара Сусвету.**

Гэтая ўрачыстасць бярэ свой пачатак у 1925 годзе, калі Папа Пій XI энцыклікай "Quas primas" 11 снежня абвясціў Хрыста Валадаром Сусвету і зацвердзіў святкаванне ўрачыстасці на апошнюю нядзелю літургічнага года. Гэта былі асаблівыя часы, калі зямныя каралі трацілі ўладу, а людзі яе здабывалі. У такім становішчы Папа хацеў скіраваць сэрца чалавека да сапраўдных каштоўнасцяў і сканцэнтраваць яго на высакародных ідэалах. Ён нагадваў, што толькі Хрыстос – Альфа і Амега, пачатак і канец усяго, падкрэсліваючы іншасць Валадарства Хрыста. Учора і сёння абвяшчаецца тая ж самая праўда пра тое, што Хрыстос – Валадар Любові. Ён хоча валадарыць у сэрцах людзей. Хоча, каб у свеце запанавалі Божы парадак, Божая праўда, справядлівасць і любоў.

**30 лістапада – свята св. Андрэя, апостала. Паходзіў з Бэтсаіды (Галілея).**

Быў братам Сымона-Пятра. Абодва яны былі рыбакамі і жылі ў Капернауме, на беразе Генісарэцкага возера. Згодна з Евангеллем паводле св. Яна, Андрэй спачатку належаў да супольнасці вучняў св. Яна Хрысціцеля, а потым па парадзе свайго настаўніка пайшоў за Езусам, узяўшы з сабою брата. Такім чынам Андрэй стаў першым вучнем Хрыста, і таму ва ўсходняй традыцыі яго называюць "Першазваным". 30 лістапада 60 года ў грэцкім горадзе Патрасе ён прыняў мучаніцкую смерць праз укрыжаванне: апостал быў прыбіты да крыжа ў форме літары "Х" – т. зв. крыжа св. Андрэя. У Сярэднявеччы яго рэліквіі трапілі ў Амальфі, у Італію, і там спачываюць у катэдры св. Андрэя да сённяшняга дня, аточаныя вялікай пашанай. Пазней галава святога была перавезеная ў Рым, але ў 1964 г. Папа Павел VI вярнуў каштоўную рэліквію ў Патрас.

Свята св. Андрэя з'яўляецца важнай датай у народным календары, з якой звязана шмат традыцый (напр., Андрэйкі). Святы – апякун рыбакоў, плыўцоў, добрага сужэнства і дзяцей. Яго заступніцтва просяць ад артрыту і сутаргаў.

## На лістапад прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**5 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*; імяніны адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**6 лістапада** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Алег Півавар** (Ваўкалата), **кс. Андрэй Бочар MS** (Далёкія);

**11 лістапада** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**12 лістапада** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Валерый Орсік** *(Орша)*, **кс. Алег Півавар** *(Ваўкалата)*; імяніны адзначае **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*;

**13 лістапада** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)* і **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**19 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Генадзь Ляўкоў** *(Дрысвяты)*;

**20 лістапада** – гадавіну біскупскага пасвячэння адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;

**30 лістапада** – імяніны адзначаюць **кс. Андрэй Аніскевіч** *(Віцебск)*, **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*, **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*, **кс. Андрэй Кулік** *(Дзеркаўшчына)*, **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*, **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Старонку падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

# Роздум пра восень жыцця

**Восень – самая шчодрая і багатая пара года. Радуе золатам лістоты, стракатымі кветкамі астраў, вяргінь, аксамітак. Частуе сакавітымі яблыкамі і грушамі. Запрашае ў лес па грыбы і журавіны. Адорвае старанных гаспадароў багатым ураджаем бульбы і гародніны. Зачароўвае спакоем і цішынёй.**

■ Алена Пажога

Восень чалавечага жыцця таксама багатая. Багатая пражытымі гадамі, набытай мудрасцю і жыццёвым вопытам, радасцю дасягненняў і горыччу паражэнняў. Восень жыцця – час развітання з імклівай маладосцю, час роздуму над пражытым, над гадамі, аддадзенымі працы і выхаванню дзяцей. Не трэба кожны дзень спяшацца на працу, бо прыйшла пара саступіць месца маладзейшым.

Дзеці сталі дарослымі, ёсць ужо любімыя ўнукі. Дні бягуць адзін за адным. Прыходзіць разуменне, што восень жыцця – час Божага блаславення. Бо не кожны дажывае да такога ўзросту. Гэты час дадзены Богам для духоўнага ўзрастання, для паглыблення веры, для практыкавання ў пакоры. Жыццёвыя сілы не павялічваюцца, а паступова ўбываюць. Даводзіцца часцей звяртацца па дапамогу. Прыходзіць разуменне, што не варта старацца здзяйсняць "подзвігі", а трэба з удзячнасцю прымаць кожны дзень, працаваць па меры сіл. Зразумеўшы дапушчаныя ў жыцці памылкі і вызнаўшы іх, даверыцца Божай міласэрнасці і старацца стаць больш чулымі і добразычлівымі. І дзякаваць, шчыра дзякаваць Богу, бо ўсё ў жыцці з Божай ласкі!

### Удзячнасць

Удзячна Богу за жыццё,
За любых дзетак, за работу,
За крыж, што несці даручыў,
За боль і радасць, за турботы.
Яшчэ я ўдзячна за любоў,
За ўсе, што выпалі, дарогі,
За родных і маіх сяброў,
За пройгрышы і перамогі.



### Перэгрэнацыя Маці Божай Фацімскай

Кветкамі аздоблена сцяжына,
Радасць у сэрцы і спакой вакол.
Сёння Маці Божая Фацімская
Завітала ў наш касцёл.

Дзень святочны, Унебаўзяцце Панны,
Ці ж не Божы Провід гэта звыш?
Выслухай народ свой, Беззаганная
Годна па жыцці каб неслі крыж!

З просьбамі на пацерках ружанца
Люд з надзеяй крочыць за Табой.
Кожны дзень, увечары ці ранкам
Нас вядзі, Марыя, за сабой.

Нас вядзі адзіным шляхам веры
І не дай жа збочыць нам, не дай!
Ад нападкаў злога і бязвер'я
Бацькаўшчыну нашу атуляй!

Блаславёны час перэгрэнацыі
Ласку навяртанняаднавіў.
Дзякуем Табе, Святая Маці,
За збаўленчыя спаткання дні.



***Ганна Танана**, парафія св. Юды Тадэвуша (в. Лучай)*

***

Я Табе давяраю жыццё і сябе,
Будзь маім маяком у часы бездарожжа.
Я Табе давяраю і веру Табе,
Што заўсёды ва ўсім толькі Ты дапаможаш.

Побач Ты, хоць ніколі не бачым Цябе,
Ты маўклівa глядзіш з абразоў і распяццяў.
І з любоўю чакаеш усіх да Сябе.
Мабыць, гэта і ёсць найвялікшае шчасце!

Ты цярпеў на крыжы за мяне, за другіх,
Зразумець гэта цяжка бывае парою.
Ты – любоў і збаўленне, надзея для ўсіх,
Хто ішоў і ідзе па жыцці за Табою.

***Даната Варабей***
*г. Мядзел*





# Святыя, якія раздзялілі святасць на дваіх

## Бласлаўлёныя Алойзі і Марыя Бельтрамэ Кватрочы: 25 лістапада

**21 кастрычніка 2001 года стала для Касцёла важнай, можа, не ўсімі заўважанай датай. У гэты дзень на пляцы Святога Пятра ў Рыме Папа Ян Павел II беатыфікаваў першую ў гісторыі сужэнскую пару – Алойзія і Марыю.**

■ **а. Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*

Упершыню афіцыйна Касцёл прызнаў магчымасць дасягнуць святасці праз каханне і сумеснае жыццё ў сям'і.

Жыццё Алойзія і Марыі было дастаткова звычайным. Яны абое з нябедных сем'яў, не перажывалі матэрыяльных клопатаў. Атрымалі добрую адукацыю. Алойзі стаў вядомым адвакатам, а Марыя выкарыстоўвала свой дар пісьменніцы, журналісткі і публіцысткі. Алойзі заўсёды актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці, аднак не імкнуўся зрабіць кар'еру і атрымаць дзяржаўную пасаду за любы кошт.

Як гэта часта здараецца, Марыя мела вялікі ўплыў на рэлігійнасць свайго мужа. У яго сям'і, апрача адной цёткі, да веры ставіліся абыякава, і таму толькі з часам ён далучыўся да штодзённай сямейнай практыкі – удзелу ў святой Імшы. Канешне, была таксама штодзённая сямейная малітва. Дзеці ўспаміналі, што вялікі ўплыў на іх жыццё зрабілі некаторыя сітуацыі. Напрыклад, аднойчы яны бачылі, як іх бацька горка плача, укленчыўшы каля канфесіянала. Гэтае слёзнае пакаянне засталося ў іх памяці назаўсёды.

Бог падарыў Алозію і Марыі чацвёра дзетак. Трое з іх прысутнічалі на беатыфікацыйнай святой Імшы.

Нараджэнне апошняй дачкі было звязана з вялікім перажываннем. Дактары паставілі неспрыяльны дыягназ і прадказвалі магчымасць смерці і маці, і дзіцяці, і таму ў адкрытую раілі аборт. Алойзі і Марыя даручылі сябе ў апеку Багародзіцы і дачакаліся нараджэння абсалютна здаровай дзяўчынкі.

> **"Цікава, што ўсе дзеці, абодва хлопцы і абедзве дзяўчыны, абралі шлях святарскага і манаскага жыцця. І ніхто з іх не стварыў сям'ю па прыкладзе сваіх святых бацькоў"**

# Як лепш сказаць па-беларуску: ДЗІЦЯЧАЯ КАЛЯСКА? ДЗІЦЯЧЫ ВАЗОК?

**У апошняе дзесяцігоддзе ў розных сродках масавай інфармацыі, а таксама ў вусным маўленні ўсё часцей адзначаецца паралельнае ўжыванне назоўнікаў *каляска* і *вазок* са значэннем** *"невялікая павозка спецыяльнага прызначэння".*

■ **Яўген Бабіч**, кандыдат філалагічных навук

Ікалі першы з названых варыянтаў выкарыстоўваўся і ў савецкі перыяд, то другі можна лічыць яшчэ ў пэўным сэнсе неалагізмам. Чаму варта аддаваць перавагу сёння з пункту гледжання культуры мовы? Паспрабуем разабрацца.

Назоўнік **каляска** падаецца ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 2, с. 596. Мінск, 1978) адразу з чатырма значэннямі, у тым ліку і як *"лёгкія калёсікі, звычайна крытыя, для катання дзяцей"*. Лексема **вазок** у гэтым слоўніку фіксуецца са значэннем *"лёгкія сані, спецыяльна абсталяваныя для выезду"* і як памяншальна-ласкальная форма да слова *воз*. Зразумела, што, зыходзячы з замацаваных у дадзеным слоўніку варыянтаў, мы павінны былі б лічыць памылковымі і неўласцівымі нашай мове канструкцыі кшталту *Купіць дзіцячы вазок* або *Людзі ў інвалідных вазках*.

Але мова няспынна развіваецца, а з моманту выхаду памянёнага слоўніка прайшло амаль сорак гадоў. Сённяшняя практыка канстатуе даволі высокую частотнасць ужывання назоўніка **вазок** у значэнні *"каляска"*. Прывядзём колькі прыкладаў з публіцыстычных тэкстаў: *У Капенгагене з дзіцячымі* ***вазочкамі*** *ў большасці гуляюць таты, а не мамы* (Звязда, 13.10.10); *...Пешым прыходзілася лавіраваць з-за веласіпедаў, скейтараў, ролераў і матуль з* ***вазкамі*** (Звязда, 5.04.11); *У адным з вагонаў выдзелена зона для пасажыраў у інвалідных* ***вазках***, *з дзіцячымі* ***вазкамі***, *роварамі і грувасткім багажом* (Наша ніва, 30.03.11); *Каб убачыць немаўля, шчаслівы бацька прыехаў у радзільню на інвалідным* ***вазку*** (Наша ніва, 23.01.13). Павышэнне частотнасці выкарыстання назоўніка **вазок**, разам з тым, не азначае, што лексема **каляска** парушае літаратурныя нормы. Гаворка ідзе пра тое, што адметны беларускі назоўнік **вазок** сапраўды паступова выцясняе кальку з рускай мовы **каляска**, але сёння абодва варыянты існуюць паралельна, і нярэдка гэта дазваляе аздобіць кантэкст стылістычна, пазбегнуць таўталогіі: *Вялікі* ***вазок*** *– вялікія выдаткі. Пустая прастора* ***каляскі*** *выклікае ўнутраны дыскамфорт...* (Звязда, 25.06.11); *У цягніку прадугледжаны кандыцыяванне паветра, мяккія зручныя сядзенні, пляцоўкі для дзіцячых* ***вазкоў***, *веласіпедаў, інвалідных* ***калясак*** (Звязда, 28.06.11). Як бачна, **вазок** можа быць не толькі дзіцячы, але і прызначаны для людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

Такім чынам, канстатуючы паралельнае ўжыванне на сённяшнім этапе развіцця беларускай мовы двух варыянтаў – **каляска** і **вазок**, – варта ўсё ж аддаваць перавагу назоўніку **вазок**, які мае выразную нацыянальнамоўную афарбоўку, празрыстую матывацыю (**вазок** – ад *"вазіць"*) і па-сапраўднаму ўпрыгожвае любы кантэкст.



## Хвала Хрысту!

*Ад імя ўсіх вернікаў парафіі Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі, а таксама вернікаў новай парафіі Езуса Міласэрнага ў г. Паставы шчыра віншуем галоўнага рэдактара "Каталіцкага Весніка" **ксяндза Віктара Місевіча** з Днём нараджэння! Дзякуем за выдатныя матэрыялы, што друкуюцца ў газеце.*

*Просім Пана Бога пра добрае здароўе для Вас, ксёндз Віктар, жадаем плёну ў штодзённых справах і святарскім служэнні. Няхай Дух Святы і надалей натхняе Вас на добрыя справы ў імя Святога Касцёла!*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаем віншаванні з нагоды Дня нараджэння **ксяндзу Марату Казлоўскаму**, які служыць у парафіі Святой Ганны ў Мосары.*

*Паважаны ксёндз Марат! Жадаем Вам Божага благаслаўлення і моцнага здароўя, падтрымкі Вашых родных, цярпення ў Вашай нялёгкай працы на Божай ніве! Няхай Дух Святы натхняе Вас на плённую і доўгую святарскую службу, няхай побач заўсёды будуць надзейныя сябры і годныя калегі!*

***Парафіяльная рада касцёла св. Ганны ў Мосары. Да віншаванняў далучаецца Галіна Дулінец***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*2 кастрычніка Дзень нараджэння адзначыў наш пробашч **ксёндз Марат Казлоўскі**.*

*Шчыра віншуем шаноўнага ксяндза Марата і дасылаем яму словы падзякі і бязмернай павагі за служэнне ў нашай парафіі, за адданасць, веру!*

***Няхай Вас адорвае Бог Міласэрны***
***Ласкай, апекай, верай без меры!***
***Няхай будуць блізкія Вашы здаровы,***
***Ім мы жадаем ад Бога аховы.***
***Няхай Вам ярка зорачка свеціць,***
***Няхай паважаюць дарослыя, дзеці!***
***Няхай жа здзяйсняюцца мары, жаданні!***
***Мы шчыра складаем свае віншаванні.***

***З вялікай удзячнасцю і павагай, Чaслава Лаўрыновіч і Марыя Раманчук (в. Мосар)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны **ксёндз Андрэй Зуй**!*

*Прыміце ад вернікаў з в.Гарадзішча Валкалацкай парафіі самыя шчырыя віншаванні з Днём нараджэння (3 лістапада).*

*Мы жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнага супакою, сіл і цярпення на Вашым нялёгкім жыццёвым шляху. Няхай Маці Божая заўсёды апякуе Вас, няхай Пан Бог памнажае мудрасць і падтрымлівае ў цярпенні.*

*Мы помнім, любім і молімся за Вас. Вашы добрыя справы назаўсёды ў нашых сэрцах.*

## Хвала Хрысту!

*Ад шчырага сэрца віншуем нашу **сястру-законніцу Ірэну** з 65-годдзем (4 лістапада)! Дзякуем ёй за служэнне ў нашай капліцы св. Юрыя, за яе добрае сэрца, за навучанне нашых дзяцей і ўнукаў, за іх падрыхтоўку да Першай Камуніі і бежмавання.*

*Дарагая с. Ірэна! Няхай добры Бог заўсёды падтрымлівае Вас у жыцці, а Маці Божая Валадарка азёраў хай атуляе сваёй апекай! Мы Вас любім і паважаем. Жадаем Вам моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця!*

***Вернікі з Быстрымаўцаў***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Ад шчырага сэрца віншуем **ксяндза Алега Півавара** з Днём нараджэння (6 лістапада) і чарговай гадавінай святарскага пасвячэння.*

*Сардэчна жадаем Вам, дарагі ксёндз-пробашч, моцнага здароўя і неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, як мага больш адкрытых і шчырых людзей на Вашым жыццёвым шляху.*

*Дзякуем Вам за адданую службу ў нашай парафіі, за шчырую малітву і абвяшчэнне Божага слова, за рупную працу з моладдзю.*

*Молімся за Вас кожны дзень.*

***Вернікі з в. Гарадзішча Валкалацкай парафіі***

## Хвала Хрысту!

*Паважаны **ксёндз-пробашч Станіслаў Мжыглуд**!*

*Ад усіх вернікаў Санктуарыя Маці Божай Валадаркі азёраў дасылаем Вам віншаванні і самыя сардэчныя пажаданні з нагоды імянінаў! Жадаем моцнага здароўя, нястомнай радасці, Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, шчодрых дароў Святога Духа.*

*Няхай Ваша мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды будуць для нас прыкладам жыцця, а любоў і супакой хай застаюцца назаўжды ў Вашым сэрцы!*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*13 кастрычніка адзначыў імяніны наш шаноўны пробашч **ксёндз-канонік Эдвард Ахрамовіч**.*

*Сардэчна віншуем Вас, дарагі наш пастыр, з гэтай нагоды! Няхай добры Бог, Які паклікаў Вас да святарства, заўсёды натхняе і ўзмацняе Вас! Няхай Маці Божая і анёл-ахоўнік берагуць Вас ад усялякіх нягодаў!*

*Ад шчырага сэрца жадаем Вам моцнага здароўя і плёну ў нялёгкай душпастырскай працы! Мы вельмі ўдзячныя Вам за клопаты ў справе аднаўлення і евангелізацыі парафіі, за шчырыя малітвы і за цеплыню Вашага сэрца. Абяцаем маліцца за Вас!*

***Вернікі парафіі Яна Хрысціцеля, Опса***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*4 верасня наш зямляк **ксёндз Антон Лагунёнак** адзначыў Дзень нараджэння.*

*Паважаны ксёндз Антон! Ад шчырага сэрца віншуем Вас, жадаем Вам моцнага здароўя на доўгія гады. Няхай Маці Божая заўсёды Вамі апякуецца, а Дух Святы хай дае сілы і шчодра адорвае ласкамі для працы на Божай ніве! Светлых Вам сонечных сцежак на святарскім шляху!*

***Вернікі Лынтупскай парафіі Св. Андрэя Баболі, Пастаўскі р-н***

**Правер сябе!**

**Правільныя адказы на тэст са стар. 9**

**1 – Б; 2 – Б; 3 – А; 4 – А; 5 – А; 6 – А; 7 – В; 8 – А.**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Ад шчырага сэрца віншуем **ксяндза Віталя Маргунова** з нагоды дня нараджэння (2 кастрычніка)! Няхай Добры наш Айцец Нябесны адорыць Вас, шаноўны ксёндз Віталь, неабходнымі ласкамі і не пакіне без сваёй апекі! Няхай заўсёды падтрымлівае Вас Ласкавая Маці Божая! Божага благаслаўлення на доўгія гады! А мы будзем памятаць Вас у сваіх малітвах.*

***З павагай, парафіяне касцёла Святога Юзафа (г. Крупкі)***

## Хвала Хрысту!

*7 кастрычніка адбылося пасвячэнне ў святары **дыякана Алега Хмылко**. Гэта значная падзея для нашага касцёла Святой Тройцы. А 15 кастрычніка ксёндз Алег адправіў прымiцыйную Імшу для нашых парафіян.*

***Шаноўны ксёндз Алег**! Дасылаем Вам сардэчныя пажаданні святла Духа Святога, Божай міласэрнасці, апекі Маці Божай, супакою, добрага здароўя на доўгія гады! Няхай Дух Святы ніколі не пакідае Ваша сэрца, а Збаўца хай вядзе па прыгожым, хоць і цяжкім шляху пастырскага служэння! А мы сваёй малітвай будзем падтрымліваць Вас!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем з Днём нараджэння (22 кастрычніка) **ксяндза Лешэка Вітвіцкага**!*

*Жадаем яму Божай ласкі, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, моцнага здароўя. Няхай Пан Бог беражэ яго ад усяго дрэннага!*

***Вернікі з Быстрымаўцаў***

***

Мядзел. Кальварыя. Крыж… Другі…
Шлях ён, крыжовы, не просты такі.
Толькі б не здацца, толькі б дайсці,
Як жа бывае складана ў жыцці!

Падае Езус, падаем мы,
Сіл не хапае ўзняць галавы.
Толькі цярпення хапіла б у нас
Правільны выбраць заўсёды адказ.

…Езус падняўся і крыж Свой нясе,
Крочым за Ім мы, як можам, усе.
Хто дапаможа, каб выстаяць тут,
Вытрываць здзекі і мноства пакут?

Стацыя сёмая: падае зноў
Езус пад цяжарам крыжа далоў.
Церпіць пакуты па нашай віне,
Можа, ліхая часіна міне?

Зноў суцяшае Ён верных людзей,
Плакаць ім раіць за родных, дзяцей.
Езус знясілены крыж Свой нясе,
Моліцца Маці, блізкія ўсе.

Падае Езус у трэці ўжо раз,
Мукай і Крыжам збаўляе Ён нас.
Просіць заўсёды ісці за Сабой,
Ён абяцае любоў, супакой.

Як не хапае парой у жыцці
Мудрасці нам, каб заўсёды ісці
Шляхам, што Езус заўжды навучаў,
Ён жа грахі нам усе даравaў.

…Цемра навокал, зямля дрыжыць.
Езус канае на тым крыжы…
Кроўю святою Сваёй адкупіў,
Бо чалавека Ён так палюбіў!

Мядзел. Кальварыя. Крыж. Ідзі,
Шляхам крыжовым і ты прайдзі.
Езус чакае заўжды і цяпер.
Ён дапаможа прайсці, ты павер!

***Даната Варабей***
*г. Мядзел*

# У якіх выпадках святар можа ўдзяляць Святую Камунію не ў часе святой Імшы?



*"Хвала Хрысту! Калі, у якіх выпадках святар можа ўдзяляць Святую Камунію не ў часе святой Імшы?"*
*Іра*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Паважаная Ірына! Дзякуй за зададзенае Вамі пытанне, якое закранае вельмі важную таямніцу жыцця вернікаў – Эўхарыстыю. Святы Ян Павел II сваю энцыкліку *Ecclesia de Eucharistia* распачаў словамі: "Касцёл жыве дзякуючы Эўхарыстыі". Паколькі Касцёл – гэта Містычнае Цела Хрыста, то ўзгаданыя словы датычаць усіх вернікаў.

### Эўхарыстыя – Божая спажыва

Касцёл пастаянна дзякуе Богу за дарчаны яму сакрамант Эўхарыстыі – духоўны спажытак і задатак вечнага жыцця. Усе чальцы Містычнага Цела Хрыста пакланяюцца самому Богу, прысутнаму ў Найсвяцейшым Сакраманце. Відавочным знакам эўхарыстычнага культу з'яўляецца станаўленне на калені ці паклон перад праўдзівым Целам і Крывёю Хрыста Пана як падчас літургічных цэлебрацый, так і па-за імі. Найбольшым ды найпаўнейшым фактам пакланення Богу ёсць цэлебрацыя Эўхарысты падчас ахвяры святой Імшы.

Другі Ватыканскі Сабор навучае, што "ў Найсвяцейшай Эўхарыстыі зміяшчаецца ўсё духоўнае багацце Касцёла, а менавіта сам Хрыстос, наша Пасха і жывы Хлеб, Які праз сваё Цела, ажыўленае Духам Святым і жыватворнае, дае жыццё людзям, запрашаючы іх і ведучы такім чынам да ахвяравання разам з Ім саміх сябе, сваёй працы і ўсіх створаных рэчаў. Таму Эўхарыстыя з'яўляецца крыніцай і вяршыняй усёй евангелізацыі" (*Дэкрэт пра служэнне і жыццё прэзбітэраў Presbyterorum ordinis, 5*). Паколькі Хрыстос устанавіў Эўхарыстыю, каб ёю карміць свой народ у дарозе да вечнага жыцця (*Пар. Ян 6,51-58*), Ён пастаянна запрашае сваіх братоў і сясцёр да поўнага ўдзелу ў святой Імшы, што азначае таксама прыняцце Святой Камуніі.

### Прысутнасць Хрыста ў Святой Камуніі

Удзел у эўхарыстычнай ахвяры больш дасканалы, калі Святая Камунія прымаецца падчас святой Імшы, што Касцёл настойліва рэкамендуе (пар. *Канстытуцыя пра святую Літургію Sacrosanctum Concilium, 55*). Аднак супольнасць Касцёла ўсведамляе, што Хрыстос прысутны не толькі ў часе цэлебрацыі святой Імшы, але і пасля яе завяршэння Ён застаецца Той Самы ў Святой Камуніі, якая захоўваецца ў табэрнакулюме. У дакументах Касцёла чытаем, што "галоўнай і першапачатковай мэтай захавання Эўхарыстыі па-за святой Імшой з'яўляецца ўдзяленне Віятыку[1]; наступныя мэты – гэта ўдзяленне Камуніі і пакланенне нашаму Пану Езусу Хрысту, прысутнаму ў Сакраманце" (*Святая Камунія і культ Эўхарыстычнай таямніцы па-за Імшою, 5*). Вера ў пастаянную прысутнасць Хрыста ў Найсвяцейшым Сакраманце выражаецца рознымі духоўна карыснымі малітвамі да спевамі, сярод якіх найбольш вядомыя: "Будзь праслаўлены ў кожным моманце, о жывы Хлебе наш у Сакраманце!" ці "Няхай будзе пахвалёны Найсвяцейшы Сакрамант – праўдзівае Цела і Кроў Пана нашага Езуса Хрыста!" Варта ведаць такія малітвы і вучыць ім сваіх блізкіх.

### Удзяленне Святой Камуніі па-за святой Імшой

Хаця Касцёл рэкамендуе, каб вернікі прымалі Святую Камунію падчас святой Імшы, але дазваляе ўдзяліць яе таксама па-за Імшой, калі існуюць на гэта слушныя прычыны (*Пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 918*). Могуць імі быць праблемы са здароўем ці абавязковая праца ў часе здзяйснення Эўхарыстычнай Ахвяры. Нормы Касцёла дазваляюць Святую Камунію ўдзяляць па-за Імшой у кожны дзень і ў кожную пару дня, аднак:

а) у Вялікі Чацвер Святую Камунію можна ўдзяліць толькі падчас святой Імшы (хворым у гэты дзень можна занесці Цела Хрыста ў кожную пару);

б) у Вялікую Пятніцу Святая Камунія ўдзяляецца толькі падчас цэлебрацыі Мукі Пана (хворым у гэты дзень можна занесці Цела Хрыста ў кожную пару);

в) у Вялікую Суботу Святую Камунію можна ўдзяліць толькі ў якасці Віятыку (*Пар. Святая Камунія і культ Эўхарыстычнай таямніцы па-за Імшою, 16*).

Найбольш вядомай акалічнасцю для ўдзялення Камуніі па-за Імшой ёсць наведванне хворых ці то ў месцы жыхарства, ці лячэння. Падобная сітуацыя можа быць у месцах зняволення, куды прыходзіць святар. Некаторыя вернікі, якія хочуць прымаць Найсвяцейшы Сакрамант таксама і па буднях, але не могуць удзельнічаць ва ўсёй Імшы, абмяжоўваюцца да ўдзелу ў Святой Камуніі, што не з'яўляецца парушэннем літургічных нормаў пры ўмове, што яны прыступаюць да стала Пана пасля належнай падрыхтоўкі, з павагай і малітвай. Абрад Святой Камуніі па-за Імшой прадугледжвае чытанне Божага Слова і адпаведныя малітвы, а таксама асабістую падзяку, праз якую вернікі прымаюць духоўна ўдзел у прынясенні падзякі, якая цудоўным чынам аддаецца Богу ў святой Імшы (*Пар. Святая Камунія і культ Эўхарыстычнай таямніцы па-за Імшою, 25*). Найбольш агульна можна сцвердзіць, што ў звычайным парадку Святую Камунію па-за Імшой могуць прасіць тыя, хто не можа ўдзельнічаць у святой Імшы.

### Прыняцце Святой Камуніі другі раз у дзень

У гэтым месцы падаецца таксама неабходным прыпомніць нормы, якія дазваляюць вернікам падчас удзелу ў святой Імшы другі раз на працягу дня прыняць Святую Камунію (*Пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 917*). Такім чынам, калі хтосьці прыняў Святую Камунію (ці ў часе Імшы ці па-за ёю), можа другі раз прыступіць да Эўхарыстыі, аднак толькі пры поўным удзеле ў Імшы. Магло б так здарыцца, напрыклад, падчас побыту ў бальніцы: раніцай святар удзяліў Камунію хвораму, які не ведаў, што зможа быць на Імшы, а такая магчымасць з'явілася пазней. Тады той, хто ўдзельнічае ва ўсёй Імшы, можа другі раз прыняць Святую Камунію. Адзіным выключэннем, калі дазваляецца прыняць святую Камунію другі раз на працягу дня без поўнага ўдзелу ў Імшы, ёсць Віятык (*Пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 921*). Заўсёды трэба пазбягаць сітуацыі, калі хтосьці імкнуўся б прымаць Святую Камунію двойчы не дзеля з'яднання з Хрыстом ды ўшанавання Яго, а трактуючы Найсвяцейшы Сакрамант інструментальна.

Карысную навуку пра спажыванне Цела Хрыста дае Папа Бэнэдыкт: "Прымаць Эўхарыстыю – значыць, мець паставу адарацыі перад Тым, Каго прымаем. Менавіта так і толькі так мы становімся з Ім адно і смакуем нейкім чынам наперад прыгажосць нябеснай літургіі" (*Апостальская адгартацыя Sacramentum Caritatis,* 66). Варта таксама маліцца словамі песні Святога Тамаша з Аквіна "Праслаўляю з верай": "*Хоць цяпер укрыты ў Госці святой, я малюся шчыра, Божа, прад Табой. Каб у вечнай славе я ўглядацца мог, у Тваё абліччa, Пане мой і Бог!*"

[1] Віятык - Святая Камунія, якую прымае хворы ў небяспецы смерці, пераважна разам з сакрамантам намашчэння хворых.

# Ці можа быць будучыня ў адносінах каталічкі і пратэстанта?

*"Хвала Хрысту! Ці можа быць будучыня ў адносінах каталічкі і пратэстанта?"*
*Тэрэза*

**На пытанне адказвае а. Андрэй Сідаровіч MIC, Росіца:**

– Так, можа быць будучыня! У прынцыпе, адносіны кожнай пары могуць мець будучыню пры ўзаемных намаганнях. Гэта датычыць таксама выпадкаў, калі ў стасункі ўступаюць людзі розных канфесій.

У Вашым выпадку вельмі важна, да якой пратэстанцкай супольнасці належыць ваш абраннік. На жаль, пратэстанты вельмі раздробленыя і маюць адрозненні ў веравучэнні. Сёння ў перажыванні закаханасці гэта можа падавацца нязначным, але пазней стане прычынай сямейных канфліктаў. Напрыклад, адвентысты ў сваім афіцыйным навучанні маюць пагарду да каталікоў і да каталіцкай традыцыі. У сваіх кнігах яны бесцырымонна называюць кожнага Папу рымскага антыхрыстам. Вы гатовы пражыць жыццё з чалавекам, які будзе чытаць такія кнігі і ўдзельнічаць у такіх набажэнствах?

Большасць пратэстантаў не прызнае хросту дзяцей. Калі загадзя не ведаць такіх і іншых нюансаў, можна моцна расчаравацца ўжо пры нараджэнні першага дзіцяці. Таму Вас чакае вельмі важнае заданне ўзаемнага пазнання. Не толькі ў сферы пачуццяў і перажыванняў, але таксама пазнанне рэлігійнай традыцыі Вашага патэнцыяльнага мужа.

Нэля Лось, м. Лынтупы

# Дзве маці



Тэлефон зазвінеў вельмі рана, адцягнуў увагу ад малітоўнага звароту да Маці Божай, з каторага ўжо многа гадоў пачынала свой дзень Ганна. Гэта была малітва праслаўлення і падзякі за спасланыя міласці, а таксама малітва-просьба пра дапамогу і апеку. Ганна вельмі любіла абраз, які пакінула ёй памерлая бабуля. Найсвяцейшая Панна з Прадвечным Немаўлём на руках глядзела на яе то строга і сур'ёзна, то ласкава і спагадліва, нібы адчуваючы яе штодзённую патрэбу ў сэрцы, якое суцяшае, усё дарує і любіць.

Зазвінеў тэлефон, і Ганна паспяшалася зняць трубку. Сын прасіў прынесці яму на працу мабільнік, які забыўся ў гаражы. Маці хуценька апранулася і выйшла на вуліцу. Кастрычніцкі світанак лянiва пpaглядаў праз пажоўклае лісце. З зацягнутага хмарамі неба імжэў нудны дождж. Раскрыўшы парасон, Ганна накіравалася да пажарнай часці, дзе служыў Сяргей.

Успомніла такі ж змрочны восеньскі дзень з мінулага: дзесяцігадовы Сярожа, прыкусіўшы вусны, старанна выконвае хатняе заданне па матэматыцы. Ганна з усмешкай глядзіць на яго. Гэты маленькі дарослы чалавечак – і сын, і сябра. З ім не заўсёды лёгка і спакойна. У яго шмат захапленняў: шахматы, спевы ў касцельным хоры, абавязкі міністранта. А яшчэ ён вельмі любіць жывёл.

Задумаўшыся, падышла да “пажаркі”. Сын быў у ангары, распараджаўся загрузкай верталёта. Работа ішла хутка і зладжана. Пад'язджалі аўтакары з грузам, мільгалі твары саслужыўцаў. Хлопцы бывалі ў іх дома, Ганна ведала многіх пайменна. У ратаўнікоў МНС сур'ёзная мужчынская работа. На баявых выездах патрабуюцца адвага і сіла, рашучасць і мужнасць. Маці з гонарам назірала за сынам. Як непрыкметна праляцеў час, і хлопчык стаў мужчынам!

Сяргей убачыў маці, усміхнуўся ёй і крыкнуў, што хутка вызваліцца. Ганна выйшла з ангара. Дождж скончыўся. Рэдкія ружовыя промні сонца прабіваліся праз хмары, асвячалі вокны дамоў, вежы і купалы храмаў, што віднеліся з-за пагорка. Лёгка і хутка яна ўзышла на пагорак і застыла ў захапленні ад прыгожага відовішча!

Нечыя рукі асцярожна накінулі ёй на плечы цёплы бушлат. Яна азірнулася: побач стаяў сын. Абняўшы яе, ён ціха сказаў: “Мамачка, не сумуй па мне так. Я навечна залічаны ў войска Божае агняборцаў. Я патрэбны тут. Свет не загіне ў небыцці. Мы спяшаемся яму на дапамогу, ратуючы ад розных бедаў. А ў гэтым горадзе мы некалі сустрэнемся з табой”.

Са шчаслівай усмешкай Ганна прачнулася. На вуліцы ласкава свяціла халаднаватае сонца бабінага лета, пышна цвілі вяргіні, на падаконніку буркатала парачка галубоў. Укленчыўшы перад абразом, Ганна малілася, дзякавала Багародзіцы за суцяшальны сон. Задуменна і тужліва глядзелі з абраза вочы Маці, Якая прадчувала смерць Сына. Горкая ўсмешка ледзь прыкметна кранала яе вусны, у святой пакоры застылі рукі. Слязьмі, што палягчалі боль, плакала зямная маці.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**22 кастрычніка 2017 г.**
***Мц 22, 15 – 21***

Фарысеі сплялі інтрыгу, каб справакаваць канфлікт Езуса з уладай або з народам. Аднак Езус не паддаўся на правакацыю, але выкарыстаў гэты выпадак, каб навучыць, як трэба ставіцца да свецкай улады. Вучань Езуса павінен ставіцца да ўлады лаяльна. І ў той жа час не можа быць паслухмяным абсалютна. Такога кшталту паводзін чакае ад нас дабро, да якога кожны пакліканы. Вельмі важна прызнаць і памятаць, што Бог – Валадар над усім светам.

*– Ці паддаюся я, вучань Езуса, маніпуляванню з боку дрэнных людзей?*

*– Ці будую спакой і згоду ў дабрыні?*

*– Ці не спрыяю спрэчкам і разладу паміж хрысціянамі?*

*– Ці часам сам не маніпулюю людзьмі?*

*– Ці не выкарыстоўваю для сваёй карысці веру, Божыя справы, Божую навуку, каб звесці каго-небудзь ці падмануць?*

*– Ці люблю тых, хто не з'яўляецца вернікам?*

*– Што я раблю, каб і яны знайшлі Езуса і вечнае жыццё?*

*– Ці з'яўляюся для іх узорам хрысціяніна?*

*– Ці не адштурхоўваю сваімі паводзінамі іх ад Касцёла?*

*– Ці люблю я сваю Айчыну?*

*– У чым гэта праяўляецца?*

*– Я – патрыёт?*

*– Ці памятаю, што канчатковая мэта – гэта наша нябесная айчына?*

*– Ці памятаю, што Бог – Пан і Валадар над усім і ўсімі?*

*– Ці аддаю тое, што павінен, Айчыне?*

*– Ці аддаю тое, што павінен, Богу?*

**29 кастрычніка 2017 г.**
***Мц 22, 34-40***

Запаведзь любові – гэта галоўны закон хрысціянства. Езус звязаў любоў Бога з любоўю брата, а таксама са здаровай любоўю да самога сябе. Мала лічыцца добрым хрысціянінам, таму што не зрабіў вялікіх грахоў. Трэба вымяраць сваё хрысціянства любоўю да Бога і да бліжняга. Гэта запаведзь змяшчае ў сабе запаведзі Старога Запавету. Яны таксама датычыліся адносін з Богам і з бліжнім. Езус аб'яднаў іх у адну непадзельную запаведзь. Трэба ўсяго сябе аддаць любові Бога: любіць усім сэрцам, душой і розумам. Гэта той узровень любові, да якога заклікае нас Езус і які Ён пацвярджае ўласным прыкладам. А адносіны да бліжняга яшчэ больш зразумелыя: любі, як самога сябе.

*– Ці разумею, што Бог хоча бачыць мяне чалавекам, які любіць?*

*– Ці пытаюся я сам у сябе падчас штодзённага рахунку сумлення пра якасць маёй любові?*

*– Ці люблю самога сябе здаровай любоўю?*

*– Ці шукаю аздараўлення для сябе ў поўных любові адносінах з Богам?*

*– Ці шукаю ў любові да Бога сілы, каб любіць бліжніх?*

*– Ці падцягваю самога сябе да той любові, якой чакае ад мяне Езус?*

*– Ці прагну любіць Яго ўсім сабой?*

*– Ці люблю бліжніх, як самога сябе?*

*– Ці задаю сабе пытанне ў маіх адносінах з роднымі і чужымі: а як бы я хацеў, каб паступалі са мной, калі б быў на іх месцы?*

**5 лістапада 2017 г.**
***Мц 23, 1-12***

Супольнасць вучняў Хрыста павінна сачыць, каб не патрапіць у хваробы, якія пагражаюць кожнай рэлігійнай супольнасці. Трэба асцерагацца крывадушнасці: ад іншых патрабуем высокіхмаральных якасцей, а самі не выконваем Божых загадаў. Трэба таксама пазбягаць дадаваць да Божага вучэння і патрабаванняў тое, што з'яўляецца нашымі выдумкамі, што можа ўспрымацца як здзек з добрай волі вернікаў. Езус перасцерагае нас не выкарыстоўваць веры для атрымання нездаровага эмацыянальнага задавальнення з прычыны ўзвышэння сябе ці выстаўлення лепшымі і больш набожнымі. У супольнасці вучняў Хрыста першае і галоўнае месца належыць Богу, а мы ўсе – браты. Іерархія ў супольнасці вернікаў існуе, але яе сутнасцю з'яўляецца служэнне.

*– Ці разумею, што гэтыя разважанні Езуса датычаць і мяне, а не толькі выбраных?*

*– Ці заўважаю крывадушнасць і ў сабе, а не толькі ў іншых?*

*– Ці разважаю пра гэтую ўласную схільнасць са сваім спаведнікам?*

*– Ці ўмею пажартаваць з сябе?*

*– Ці дзякую Богу за дабро, якое Ён зрабіў праз мяне?*

*– Ці не маю схільнасці пакрывацца Божымі справамі для сваіх нездаровых эмацыянальных патрэбаў?*

*– Ці разумею, што некаторыя дзеянні нельга рабіць, таму што вера і Божая навука – гэта не мая ўласнасць, але Божая?*

*– Ці бачу ва ўсіх добрых справах Бога і ці перанакіроўваю ўвагу на Яго?*

*– Ці стаўлюся да іншых як да братоў, няхай меншых і нявопытных, але братоў?*

*– Ці памятаю, што кожная пасада ў Касцёле – гэта служэнне?*

*– Ці цаню братоў, якіх Бог паклікаў да асаблівых функцый у Касцёле?*

*– Ці з пашанай прымаю аўтарытэт Касцёла?*

*– Ці паважаю служэнне верных слугаў Касцёла?*

**12 лістапада 2017 г.**
***Мц 25, 1-13***

Сустрэча з Езусам у апошні дзень для Яго вучняў будзе радасным часам вяселля. Мы не ведаем, калі Ён прыйдзе, не ведаем нават дакладнага дня заканчэння нашага зямнога жыцця. Таму трэба чуваць і рыхтавацца. Гэта галоўная справа нашага жыцця: Езус у дзень нашай смерці або ў апошні дзень існавання свету павінен сустрэць нас падрыхтаванымі. Падрыхтоўка заключаецца ў тым, каб выконваць Яго волю. А Яго воля – любоў да бліжняга і да Яго. Нельга дазволіць сабе жыць без алею любові. Мінімальная мяжа, за якую нельга выходзіць, – гэта смяротны грэх, а максімум – гэта поўнае любові сэрца, з'яднанае з Езусам.

*– Ці з'яўляецца Езус радасцю і надзеяй майго жыцця?*

*– Ці гатовы я сёння памерці?*

*– Ці разумею, што невядома, калі яна прыйдзе?*

*– Ці стараюся выконваць Божую волю?*

*– Ці ведаю, што хоча Бог?*

*– Ці ведаю, як я павінен любіць і дзе мая любоў недасканалая?*

*– Ці шукаю ў споведзі і ў Божым слове аздараўлення свае́й любові?*

*– Ці пазбягаю смяротнага грэху?*

*– Якія сродкі выкарыстоўваю, каб не патрапіць у сур'ёзнае парушэнне любові – смяротны грэх?*

*– Ці рэгулярна і ці шчыра спавядаюся?*

*– Ці маю адносіны са святаром, які дапамагае мне ў духоўным развіцці?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*Віцебск*

# Пазнавайка

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл.

## “Памятай дзень святы святкаваць”

Дарагі сябра! Тэмай нашай сённяшняй “Пазнавайкі” стала трэцяя запаведзь. Яна гучыць так: “Памятай дзень святы святкаваць”.

Кожную нядзелю і ў святочныя дні мы павінны ўдзельнічаць у святой Імшы і не рабіць неабавязковай працы. У гэтыя дні трэба ўмець правільна выкарыстоўваць свой час. Для чаго нам яшчэ патрэбны гэты дзень – нядзеля - даведаешся, калі выканаеш наступнае заданне і прачытаеш па парадку. Атрыманы адказ запішы тут:

______________________________________________

______________________________________________

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 3 каб | 6 нядзелю | 8 сабе | 5 пасвяцілі | 9 і | 11 родным |
| 10 сваім | 2 хоча, | 1 Бог | 4 мы | 7 Яму, | 12 блізкім |

| | | |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 |

## Знайдзі адрозненні

Аленка заўсёды стараецца выконваць Божыя запаведзі, таму кожную нядзелю ходзіць у касцёл на святую Імшу. Твая задача знайсці на падобных малюнках усе адрозненні і абвесці іх алоўкам.



## Што лішняе?

Перад табою некалькі таблічак з малюнкамі на тэму “Памятай дзень святы святкаваць”. У кожнай з іх ёсць нешта лішняе. Твая задача выкрасліць непатрэбны малюнак і растлумачыць бацькам, чаму ты так лічыш.



## Паразважай і размалюй

У нядзелю ўся сям’я сабраліся на святую Імшу. А Міша не слухаўся бацькоў і не хацеў ісці ў касцёл, бо якраз у гэты час па тэлевізары павінны былі паказваць цікавы мультфільм.

Разам з бацькамі паразважай, ці правільна сябе паводзіць Міша

Якія Божыя запаведзі парушае хлопчык?

Каляровымі алоўкамі прыгожа размалюй гэтую карцінку.



## Палічы правільна

Колькі разоў слова “нядзеля” сустракаецца ў гэтай таблічцы. Палічы. Адказ запішы: _______________

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Н | Я | Д | З | Е | Л | Я | М | А | Л | І | Т | В | А | В | Е | Р | Н | І | К |
| Р | А | Д | А | С | Ц | Ь | У | С | М | Е | Ш | К | А | С | Я | С | Т | Р | А |
| Б | О | Г | Н | Я | Д | З | Е | Л | Я | Д | О | М | К | А | С | Ц | Ё | Л | Я |
| Н | Я | Д | З | Е | Л | Я | А | Н | Ё | Л | Ё | Н | Н | Я | Д | З | Е | Л | Я |

РУБРЫКА! РУБРЫКА! РУБРЫКА! РУБРЫКА! РУБРЫКА! РУБРЫКА! РУБРЫКА! РУБРЫКА!

## Пазнаём святых!

У нашай «Пазнавайцы» з'явілася новая рубрыка «Пазнаём святых», у якой будзе расказвацца пра цікавае жыццё якога-небудзь святога. Сёння ты даведаешся пра жыццё святога апостала Паўла!

### СВЯТЫ ПАВЕЛ, АПОСТАЛ

Святы Павел быў моцным прыхільнікам юдаізму, але навярнуўся ў хрысціянства падчас падарожжа ў Дамаск, куды быў пасланы з мэтай пераследу хрысціян. Бо па дарозе яму аб’явіўся Хрыстос, які цалкам перамяніў яго жыццё. Пасля навярнання, падарожнічаючы па шматлікіх краінах і землях, абвяшчаў усім Евангелле, заснаваў шматлікія хрысціянскія супольнасці. Шмат разоў яго арыштоўвалі.

У 67 годзе прыняў у Рыме мучаніцкую смерць праз адсячэнне галавы.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***



# Санктуарый Маці Божай Фацімскай у Баранавічах запрашае дзяцей, моладзь і дарослых прыняць удзел у міжнародным літаратурна-мастацкім конкурсе

З нагоды сотых угодкаў аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме Санктуарый Маці Божай Фацімскай у Баранавічах аб'яўляе міжнародны літаратурна-мастацкі конкурс "Пасланне Маці Божай Фацімскай мне і майму акружэнню". Конкурс мае адкрыты характар, у ім могуць прыняць удзел дзеці, моладзь і дарослыя.

Задача: стварэнне літаратурнага або мастацкага твора, які адлюстроўвае актуальнасць фацімскага паслання для нас, сённяшніх, гэта значыць, асабіста для самога ўдзельніка і яго атачэння.

Мэта конкурсу: ажыўленне закліку Пані з Фацімы і асабістае прыняцце Яе просьбы пра навяртанне, мір, заступніцтва і ўзнагароду.

Даты правядзення: 13 кастрычніка 2017 – 1 сакавіка 2018 гг. Вынікі падвядуць у маі 2018 года.

Важна! На конкурс патрэбна дасылаць арыгінальныя творы, раней нідзе не надрукаваныя і не адзначаныя ўзнагародамі.

Умовы:

— Літаратурны жанр: малітва, верш, апавяданне. Праца павінна быць на беларускай або рускай мовах. Аб'ём: для малітвы і верша – 1 старонка фармату А4, для апавядання – максімальна 2 старонкі А4. Літаратурныя творы будуць ацэньвацца асобна па трох узроставых катэгорыях: дзеці да 15 гадоў, моладзь да 25 гадоў і дарослыя.

— Жанр выяўленчага мастацтва і тэхніка выканання: фарбы алейныя, плакатныя, акрылавыя, тэмпера, акварэль, аловак, туш каляровая, крэйда, выцінанка, калаж, аплікацыя, змешаная тэхніка выканання. Фармат – А3 або А4. Праца не павінна быць канструктыўна прасторавай: разьба, інсталяцыя, фігура на шкле. Яе не трэба браць у рамку або падклейваць. Ацэньвацца творы будуць паводле пяці ўзроставых груп: дзеці да 7 гадоў, 8-11 гадоў, 12-15 гадоў, моладзь да 20 гадоў і дарослыя.

Галоўная ўзнагарода – пілігрымка па ўсіх беларускіх Санктуарыях Маці Божай Фацімскай.

Дадатковую інфармацыю можна даведацца па адрасе: konkurs.MBF@tut.by або
225416, г. Баранавічы,
пр-т Савецкі, 16,
Санктуарый Маці Божай Фацімскай,

а. Конрад Патыка SVD.

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасалаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

**1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2#**

**2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**

**3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**

**4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвявання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***

# Расклад курсаў у рэкалекцыйным доме ў Оршы да канца 2017 года

Рэкалекцыйны дом у Оршы прапануе расклад курсаў на кастрычнік-снежань 2017 года.

**20-22 кастрычніка** – **курс «Давід»**;

**27-29 кастрычніка** – **біблійны курс «Эмаус»**;

**30 кастрычніка – 1 лістапада** – **курс «Закхей»**;

**11 лістапада** – **«Вінаграднік»**;

**17-19 лістапада** – **курс «Эстэра»**;

**24-26 лістапада** – **семінар МРП**;

**8-10 снежня** – **«Сужэнскія сустрэчы»**.

**На ўсе рэкалекцыі папярэдні запіс абавязковы.**

Пра кожны курс пазней на сайце catholicnews.by інфармацыя будзе з'яўляцца больш падрабязная.

*а. Аляксандр Жарнасек MIC*
тэл. +375297130233

РЭКАЛЕКЦЫЙНЫ ДОМ У ОРШЫ
ЗАПРАШАЕ
РАСКЛАД КУРСАЎ
кастрычнік-снежань 2017 г.

На ўсе рэкалекцыі папярэдні запіс абавязковы!!!

**20-22 кастрычніка**
КУРС «ДАВІД»
Змест: Рэкалекцыі на тэму духоўнага распазнання і духоўнай барацьбы. Гэта – адна з найважнейшых тэмаў для кожнага верніка. Між іншым, у Евангеллі ад Яна яна асабліва раскрываецца ў тэме чування.
Пачатак: пятніца а 18.00
Заканчэнне: нядзеля а 13.30
Запіс: да 18.10 (серада) +375 29 7130233
Адказны за курс: а. Аляксандр Жарнасек MIC

**27-29 кастрычніка**
БІБЛІЙНЫ КУРС «ЭМАУС»
Змест: Заняткі па вывучэнні Бібліі. Практыка малітвы Божым Словам. Працы па вывучэнні Бібліі. Неабходна мець з сабой усё тое, што бяруць студэнты на заняткі (Біблію, сшытак).
Пачатак: пятніца а 18.00
Заканчэнне: нядзеля а 17.30
Запіс: да 25.10 (серада) +375 29 7130233
Адказныя за курс: доктар біблейскага багаслоўя Уладзіслаў Валаховіч і а. Аляксандр Жарнасек MIC

**30-1 кастрычніка/лістапада**
КУРС «ЗАКХЕЙ»
Змест: Малітоўная сустрэча для школьнай моладзі (ад 14 гадоў) ў часе восеньскіх канікул. Катэхэза, адпачынак, новыя знаёмствы, час разам.
Пачатак: панядзелак а 13.00
Заканчэнне: серада а 13.30
Запіс: да 27.10 (пятніца) +375 29 7130233
Адказныя за курс: а. Аляксандр Жарнасек MIC і сястра Таццяна Гмыза SJE

**11 лістапада**
«ВІНАГРАДНІК»
Змест: Малітоўна-фармацыйная сустрэча, якая адбываецца ў Оршы больш за 5 год. Канферэнцыі, Святая Імша, споведзь, малітва благаслаўлення і заступніцтва ў розных нашых патрэбах.
Пачатак: субота а 10.00
Заканчэнне: субота а 20.30
Запіс: да 09.11 (чацвер) +375 29 7130233
Адказны за сустрэчу: а. Аляксандр Жарнасек М

**17-19 лістапада**
КУРС «ЭСТЭРА»
Змест: Рэкалекцыі для жанчын. Праблема непрабачэння закранае як мужчын, так і жанчын, але ў жыцці жанчын, якія па сваёй прыродзе не толькі спачувальныя і добрыя, але таксама часта і безабаронныя, гэтая праблема займае асаблівае значэнне.
Пачатак: пятніца а 18.00
Заканчэнне: нядзеля а 13.30
Запіс: да 15.11 (серада) +375 29 7130233
Адказны за курс: а. Аляксандр Жарнасек MIC

**24-26 лістапада**
СЕМІНАР МРП
Змест: Тэарэтычна-практычны семінар па метадах распазнання плоднасці (МРП), які праводзіць дабрачынны фонд «Адкрытыя сэрцы».
Запіс: +375 29 8122276
Адказны за семінар: кіраўнік фонду Уладзіслаў Валаховіч

**8-10 снежня**
«СУЖЭНСКІЯ СУСТРЭЧЫ»
Змест: Рух у Касцёле, які арганізоўвае рэкалекцыі для сужэнцаў. Мэтай рэкалекцый з'яўляецца паглыбленне і аднаўленне сужэнскай еднасці і любові. Падчас сустрэчаў кожная сужэнская пара можа перажыць аднаўленне ўзаемных пачуццяў, паглыбіць сваё каханне альбо адкрыць яго нанова, аднавіць адчуванне сутнасці таямніцы шлюбу. Мужу і жонцы прапаноўваецца дыялог, які вядзецца толькі паміж імі і дапамагае лепшаму ўзаемапаразуменню, дапамагае радавацца сужэнскаму жыццю, нанова адкрываць яго прыгажосць.
Запіс: а. Браніслаў Дашкевіч OP +375 44 7734076

Адрас: г. Орша вул. Савецкая, 6
Больш інфармацыі на сайце www.viartannie.org

Па ўсіх дадатковых пытаннях можна звяртацца: +375 29 7130233 а.Аляксандр Жарнасек MIC

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі:**

**у №9 (78): Веранiка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Бугаева Э.Н.** *(Лынтупы)*, **Ніна Шпак** *(Друйск)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Зоя Шпак** *(Пагошча)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Даната Пачкоўская** *(Савуткі)*, **Даната Рудак** *(Янкова)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Валянціна Віткоўская** *(Шудаўцы)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **парафіяне з Браслава.**

**у №10 (79): Леановіч К.І.** *(Віцебск)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Марыя Шук** *(Лявонпаль)*, **Бугаева Э.М.** *(Лынтупы)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Кісель Л.С.** *(Быстрымаўцы)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Феакціставa Л.М.** *(Камарова)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Вера Шышкнян** *(Гірэйшы)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Часлава Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Яна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Танана А.В.** *(Коўзаны)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Лапушынская Р.В.** *(Коўзаны)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Ангеліна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Ядвіга Кісель** *(Вілейка)*, **Марыя Кісель** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:**
рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 6568

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3000 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 18.10.2017 г. у 12.32

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1,
г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь